наша свабода

№14(241) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

6 ЛЮТАГА 2002 году СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

ВЕСТКІ



## Дарагое і няякаснае

Шампанскае на Беларусі вырабляюць з вінаматэрыялу коштам 0,4 даляры за літр, а прадаюць – па 2,3 даляры за бутэльку. Між тым якасць набытай сыравіны такая нізкая, што лабараторыя Мінскага завода ігрыстых вінаў мусіла адмовіцца ад 9 вагонаў з вінаматэрыялам. Папярэднія 8 вагонаў той жа якасці ўсё ж былі выкарыстаны для вытворчасці напою. Пра гэта паведаміла радыё «Рацыя».

## Дзеля скарачэння выдаткаў

і ўзмацнення кантролю над мастацкімі выданнямі міністэрства культуры пастанавіла аб'яднаць часопіс «Мастацтва» і газету «Культура» ў холдынг пад назовам-абрэвіятураю «КіМ». Мяркуецца, што кіраваць холдынгам будзе супрацоўніца міністэрства інфармацыі Ліліяна Анцуг, а цяперашнія рэдактары часопісу «Мастацтва» і газеты «Культура» Аляксей Дудараў і Людміла Крушынская станнуць яе намеснікамі. Чакаецца значнае скарачэнне штатаў абодвух выданняў.

## Дапамога Еўрасаюзу сваім кандыдатам

Еўрапейская камісія зацвердзіла план фінансавання трох найбольш важкіх пунктаў праграмы па будучым расшырэнні ЕС – сельгаспалітыкі, рэгіянальнай палітыкі і бюджэту ЕС. Згодна з прынятым дакументам, Еўракамісія мяркуе выдзеліць у 2004-2006 гг. на развіццё новых сябраў 40 млрд. еўра (раней планаваліся 42 млрд.). Дакумент атрымае моц у 2004 г. пасля ўваходу ў Еўрасаюз 10 новых дзяржаў-кандыдатаў – Польшчы, Венгрыі, Чэхіі, Славеніі, Мальты, Кіпру, Славакіі, Літвы, Латвіі і Эстоніі.

## Швейнікі Беларусі накіроўваюцца ў Лондан

Швейныя прадпрыемствы Беларусі рыхтуюцца да ўдзелу ў міжнароднай выставе жаночага адзення *Premier*, што пройдзе ў Лондане з 12 па 22 лютага. Гэта будзе іх першы ўдзел у лонданскай прэстыжнай выставе. Арганізатарамі нашай экспазіцыі выступаюць Беларуская гандлёва-прамысловая палата (БГПП) і міністэрства гандлю пры садзейнічанні «Беллегпраму». *Premier* – самая буйная ў Вялікабрытаніі выстава сучаснай і класічнай жаночай моды ад вядучых вытворцаў.

## «Газпрам» кінуў Беларусь і здаўся на літасць Украіны

Савет дырэктараў ААТ "Газпрам" на паседжанні ў панядзелак прыняў рашэнне павялічыць магутнасць газаправоду «Ямал—Еўропа» і адмовіцца ад праекту будавання газаправоду ў абход Украіны па тэрыторыі Польшчы.

Пра гэта паведаміў падчас тэлефоннай канферэнцыі з інвестарамі сябар савету дырэктараў «Газпраму» Барыс Фёдараў.

Рашэнне адмовіцца ад праекту коштам больш за 1 млрд. даляраў прынята з мэтай скарачэння інвестыцыйнай праграмы кампаніі, якая не атрымае чаканых сродкаў у выніку скарачэння ўрадам замоўленага «Газпрамам» росту цэнаў на ўнутраным рынку газу.

Кансорцыум па збудаванні газаправоду па тэрыторыі Польшчы і Славакіі ў абход Украіны быў утвораны восенню 2000 году ў складзе ААТ «Газпрам», італьянскай *Eni*, французскай *Gas de France* і германскіх *Ruhrgas* і *Wintershall*.

Цяпер па газаправодзе «Ямал—Еўропа» экспартуецца каля 17 млрд. кубаметраў расійскага газу ў год, ягоным пакупнікам выступае створаны ў пачатку 1990-х гадоў на парытэтнай аснове расійска-германскі гандлёвы дом *WEIH*. Мяркуецца, што да 2003 году аб'ём паставак па гэтым газаправодзе вырасце прыблізна да 33 млрд. кубаметраў газу ў год коштам збудавання новых кампрэсарных станцый на польскай тэрыторыі.

УА «Інтэрфакс»

## Супраць ліцэнзавання

У навукова-даследныя арганізацыі краіны – Белдзяржуніверсітэт, Нацыянальную акадэмію навук Беларусі, Беларускую асацыяцыю сацыёлагаў – прыйшоў ліст з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 18.01.2002 г., у якім паведамляецца пра намер уладаў увесці «ліцэнзаванне» сацыяльных даследаванняў у Беларусі.

Каардынацыйны савет рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускія фабрыкі думкі», у які ўваходзіць большасць прадстаўнікоў незалежных даследных і аналітычных цэнтраў краіны, разглядае гэтыя дзеянні як спробу ўладаў паставіць пад адміністрацыйны кантроль незалежныя сацыяльныя даследы. У той час як кіраўніцтва краіны заяўляе пра свае імкненне нармалізаваць адносіны з еўрапейскімі і іншымі міжнароднымі структурамі, пра адданасць курсу на сацыяльна-эканамічную і палітычную лібералізацыю, гэтыя дзеянні сведчаць пра адваротнае.

Мы лічым, што такім чынам будзе нанесена шкода не толькі навуковай супольнасці, але і мільёнам беларускіх грамадзянаў, якія будуць пазбаўленыя свайго канстытуцыйнага права «на атрыманне... сапраўднай і своечасовай інфармацыі» (арт. 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь). Тым самым будзе зробленая шкода і міжнароднаму прэстыжу Беларусі, абцяжарана яе ўваходжанне ў сусветную супольнасць. Пацерпіць і сама ўлада, бо пазбавіцца альтэрнатыўных крыніцаў інфармацыі і аналізу, неабходных для прыняцця абгрунтаваных кіраўнічых рашэнняў, без якіх немагчымае правядзенне ўнутранай і замежнай палітыкі, якая б адказвала інтарэсам беларускіх грамадзянаў.

«Беларускія фабрыкі думкі»

# Хутка запусцяць пасольскую карусель



Фота Ул. Шлапака

*Пасля таго, як кіраўнік дзяржавы прыняў групу з чатырох намеснікаў міністра замежных справаў, ёсць падставы меркаваць, што ў найбліжэйшым часе пачнецца маштабная замена беларускіх паслоў за мяжою.*

Нагодаю для гутаркі Лукашэнкі з высокапастаўленымі чыноўнікамі МЗС стала тое, што ў сваім кабінеце ён афіцыйна абвясціў пра іх зацверджанне на сваіх месцах. Усе чацвёра, працуючы на сваіх месцах, чатыры месяцы чакалі гэтага рашэння. Зрэшты, чакаў гэтага моманту і сам міністр Хвастоў, якога раней зацвердзілі сябрам ураду. Праўда, апошнім часам усё яшчэ досыць актыўна цыркулююць чуткі пра замену самога галавы знешнепалітычнага ведамства, якога збіраюцца адаслаць паслом у Вашынгтон.

Па некаторых звестках, найбольш верагоднымі фігурамі, якія могуць прыйсці на змену Хвастову, лічацца дзве. Гэта цяперашні пасол Беларусі ў Пекіне Уладзімір Русакевіч і прафесійны дыпламат і памочнік прэзідэнта Уладзімір Макей.

У перыяд перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі па беларускім тэлебачанні Уладзіміра Макея прадстаўлялі як аднаго з аўтараў перадвыбарчай праграмы Лукашэнкі. У чым была прывабнасць і арыгінальнасць гэтай праграмы, цяпер, як і раней, мала хто можа сказаць нешта выразнае. На заклінанні па шматвектарную знешнюю палітыку цяперашняга кіраўніцтва Беларусі, здаецца, мала хто ўжо рэагуе. Нават братняя Расія з відавочнай абыякавасцю пачала назіраць за актыўнасцю свайго стратэгічнага саюзніка ў такім утварэнні, як Рух недалучэння. Створаны ў эпоху супрацьстаяння ваенна-палітычных блокаў на чале з ЗША і СССР, цяпер Рух недалучэння практычна ніякае ролі ў свеце не грае.

У сувязі з чаканаю пасольскаю каруселлю найперш прыцягваюць увагу планы замены галоваў дыпламатычных місіяў Беларусі ў шэрагу еўрапейскіх краін. У недалёкім мінулым, калі яшчэ ў Бялградзе панаваў Мілошавіч, у Мінску было прынята рашэнне адкрыць сваё пасольства ў Будапешце. Меркавалася, што вынікам яго працы стане стварэнне гэткага плацдарму для прасоўвання інтарэсаў правячага рэжыму Беларусі на Балканы, галоўным чынам – беларускага экспарту. Што і казаць, планы былі грандыёзныя.

Заканчэнне на стар.3

У БЕЛАРУСІ

## Нямецкі *Salamander* у Віцебску

Сусветны вытворца якаснага абутку нямецкая фірма *Salamander* прыняла рашэнне аб адкрыцці новага сумеснага прадпрыемства ў Віцебску. Немцы прапануюць інвеставаць у мясцовую фабрыку абутку «Чырвоны Кастрычнік» дзеля яе тэхнічнага абнаўлення. На гэтыя мэты мяркуецца выдзеліць фінансаванне ў памеры 1,5 млн. даляраў. *Salamander* бярэ на сябе абавязак пагасіць запазычанасць «Чырвонага Кастрычніка» перад бюджэтам у памеры 757 млн. рублёў. Да гэтага часу нямецкая фірма была адным з заснавальнікаў даволі паспяховага ў Беларусі сумеснага прадпрыемства «Белвест».

## Камуністаў высяляюць

ЖРЭУ Савецкага раёну Мінску адмовіла ў працягу арэнды офіснага памяшкання Партыі камуністаў Беларускай. Як заявіў лідэр партыі С. Калякін, падставаў для адмовы ў працягу арэнды няма.

## Лёс МАЗу вырашаць у лютым

Перамовы з прадстаўнікамі кіраўніцтва кампаніі «*Сибал*» адносна інвестыцыяў у Мінскі аўтамабільны завод пройдуць у лютым 2002 году. Пра гэта заявіў віцэ-прэм'ер Беларусі Сяргей Сідорскі. «Цяпер мы прадставілі кіраўніцтву кампаніі свае прапановы і чакаем адказу», – адзначыў віцэ-прэм'ер. «Пры гэтым нас па-ранейшаму цікавіць супрацоўніцтва з расійскімі машынабудаўнічымі прадпрыемствамі: набыццё яраслаўскіх рухавікоў, прысутнасць на расійскім рынку ў цэлым», – патлумачыў ён. На экспарт ідзе каля 90% прадукцыі МАЗу. Прадпрыемства пастаўляе ў Расію каля 85% аўтамабіляў, якія на ім выпускаюцца.

## Паліклініка для малых

Учора ў пасёлку Лясное пад Мінскам адкрылася новая паліклініка Мінскай абласной дзіцячай бальніцы. Яна разлічана на прыём 250 дзяцей у змену. Новая паліклініка – частка вялікага шматпрофільнага бальнічнага комплексу са стацыянарам на 600 ложкаў. Паводле плану поўнасцю будаўніцтва будзе завершана ў 2005 годзе.

## Тэмпературныя рэкорды

Упершыню за апошнія 100 гадоў у Мінску ў студзені зафіксавана тэмпература вышэйшая за 10 градусаў цяпла. У мінулую нядзелю ў паўднёвых раёнах Беларусі тэмпература ўздымалася да 15 градусаў. Надзвычай цёплае надвор'е выклікаў антыцыклон, які ідзе з Атлантыкі, а таксама паветраныя патокі з Міжземнага мора. Рэзкага пахаладання найбліжэйшым часам сіноптыкі не прагназуюць.

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

1680

# Беспрацоўных – больш за сто тысяч

У 2001 годзе колькасць беспрацоўных у Беларусі ўзрасла на 7,4% і склала 102,9 тыс. Паводле звестак міністэрства статыстыкі і аналізу, найбольшы прырост колькасці беспрацоўных адбыўся ў Брэсцкай і Віцебскай абласцях (на 16,8 працэнта), найменшы – у Мінскай (на 1,8). У Мінску колькасць беспрацоўных зменшылася на 2,3 працэнта.

Узровень беспрацоўя ў Беларусі на 1 студзеня 2002 году склаў 2,3 працэнта. Найбольшыя паказчыкі зафіксаваныя ва ўсходніх абласцях краіны: у Віцебскай – 3,1, у Магілёўскай – 2,8, у Гомельскай – 2,7. У Гродзенскай вобласці без работы застаюцца 2,5 працэнта эканамічна актыўнага насельніцтва, у Брэсцкай – 2,1, у Мінскай – 2, у Мінску – 1,5. У Віцебскай вобласці на 10 заяўленых вакансій прыпадае 66 беспрацоўных (на 1 студзеня 2001 году было 42), у Брэсцкай – 50 (28), у Гродзенскай – 45 (32), у Гомельскай – 44 (33), у Магілёўскай – 43 (35), у Мінскай – 26 (24), у Мінску – 12 (20), у цэлым па краіне – 32 (29).

У студзені–лістападзе 2001 году колькасць занятых у рэжыме няпоўнага працоўнага часу па ініцыятыве наймальніка склала 207,8 тыс. чалавек, павялічыўшыся ў параўнанні з аналагічным перыядам 2000 году на 52,4 працэнта. Неадпрацаваны час за гэты перыяд павялічыўся на 26,9 працэнта – да 20,8 млн. чалавека-гадзін, або да 100 гадзін у сярэднім на аднаго працаўніка ў гэтым рэжыме.

За 2001 год у органы дзяржаўнай службы занятасці па пытанні працаўладкавання звярнуліся 307,5 тыс. грамадзян, з іх прызналі беспрацоўнымі 216,1 тыс., або 70,3 працэнта. Працаўладкавалі 221,8 тыс. чалавек, з іх 139,4 тыс. беспрацоўных. У грамадскіх работах, якія арганізоўваюць органамі дзяржаўнай службы занятасці «ў мэтах зніжэння напружанасці на рынку працы», у 2001 годзе ўзялі ўдзел 116,5 тыс. чалавек, з іх 66,5 тыс. беспрацоўных.

У снежні мінулага году дапамогу па беспрацоўі атрымалі 43,8 тыс. чалавек. Сярэдняя сума дапамогі склала 9 543 рублі (6 даляраў ЗША), або 6 працэнтаў ад сярэдняй заработнай платы ў краіне.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН**

# Візы ў Літву

Летась Літва выдала 80 тысяч візаў на ўезд у краіну грамадзянам Беларусі. Паводле словаў амбасадара Літвы ў Беларусі Ёнаса Паўлаўскаса, гэта ў два разы болей, чым у 2000 годзе. Такая тэндэнцыя станоўча ўплывае на эканамічнае супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі і дазволіла павялічыць тавараабарот паміж імі за мінулы год на 30%. «Літоўскія прадпрымальнікі лічаць беларускі рынак вельмі перспектыўным», – заяўляе сп. Паўлаўскас. На яго думку, гэта звязана з валютнай лібералізацыяй, што адбылася ў Беларусі.

Адной з актуальных праблемаў ва ўзаемаадносінах паміж суседнімі дзяржавамі амбасадар лічыць будучы ўступ Літвы ў Еўрапейскі Саюз. У сувязі з гэтым да 1 ліпеня 2003 году, згодна з правіламі ЕС, павінны быць скасаваныя бязвізавыя паездкі грамадзянаў нашай краіны ў Літву. Між тым такой магчымасцю сёння карыстаюцца пенсіянеры і жыхары памежных тэрыторый. У большасці з іх у суседняй краіне жывуць родныя. Неабходнасць афармлення візаў нашмат ускладніць іх стасункі. Таму, на думку Ёнаса Паўлаўскаса, дзяржавы павінны прыняць узаемапрымальнае рашэнне, каб «не перашкаджаць нармальным адносінам сваіх грамадзянаў».

**barcnews**

# «Аварыйныя» дрэвы – пагроза жыццю

У Брэсце павялічваецца колькасць пацярпелых ад выпадковага падзення дрэваў. 29 студзеня ад моцнага парыву ветру зваліўся на праезную частку вуліцы Міцкевіча стары ясень. Пад ягонай разлапістаю кронаю апынуўся прыпаркаваны да ўзбочыны легкавы аўтамабіль «Опель-Астра» Ленінскага райаддзелу «Ахова» з трыма міліцыянтамі ў салоне. Ад удару вылецела шкло, памяўся кузаў і сагнулася бакавая стойка. Сяржанты напалохаліся, але абышлося нават без сінякоў. У двары дома па бульвары Касманаўтаў вялікая таполя раптоўна звалілася на аўтастаянку. На вуліцы Савецкай вырванае з коранем дрэва пашкодзіла два легкавікі адразу. Не забылася ў Брэсце пра трагедыю на аўтобусным прыпынку «Зялёная», дзе дрэва насмерць прыдушыла жанчыну.

Гарадскія лесарубы дружна ўзяліся за працу. Ужо 140 так званых аварыйных дрэваў спілаваныя на цэнтральных вуліцах Міцкевіча, Гогаля, бульвары Касманаўтаў. Зараз звіняць пілкі на праспекце Машэрава і вуліцы Камсамольская.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Засталіся без газу

4 лютага ў раёне вёскі Камень Лепельскага раёну Віцебскай вобласці на кранавай пляцоўцы Крупскага ўпраўлення магістральных газаправодаў РУП «Белтрансгаз» парваўся адводны ўчастак газаправоду Лепель–Ушачы. У выніку прыродны газ загарэўся.

Праз 20 хвілін пасля аварыі дыспетчарская служба Крупскага ўпраўлення магістральных газаправодаў спыніла падачу газу ў газапровад, з-за чаго без газазабеспячэння засталіся сем буйных паселішчаў Віцебскай вобласці: Чашнікі, Ушачы, Бешанковічы, Обаль, Шуміліна, Полацк, Наваполацк, а таксама ВА «Нафтан».

Усе сістэмы цеплазабеспячэння спажыўцоў пераведзены на мазутнае паліва, а падача пары на тэхналагічныя ўстаноўкі «Нафтану» ажыццяўляецца ад наваполацкай ЦЭЦ-2.

Паводле звестак БелаПАНу, пагрозы населеным пунктам і грамадзянам няма. Канцэрн «Белпаліўгаз» прымае меры па забеспячэнні насельніцтва звадкаваным газам. Магістральны газапровад Таржок–Мінск–Івацэвічы, ад якога адгаліноўваецца газапровад Лепель–Ушачы, функцыянуе ў ранейшым рэжыме.

Працы па ліквідацыі наступстваў аварыі не спыняліся ўсю ноч, на працягу якой пашкоджаны ўчастак трубапровода замянілі. На месцы аварыі працуюць 28 адзінак тэхнікі і больш за 80 чалавек з аварыйных брыгад канцэрну «Белтрансгаз».

Прычынай аварыі лічыцца зрух глебы, у выніку чаго на месцы зварачнага шва трубы ўтварылася шчыліна і газ загарэўся. Факел вышынёй у некалькі дзесяткаў метраў гарэў болей за 8 гадзін.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

# Гарэлка даражэе

Адбылося другое за апошнія тры тыдні павышэнне цэнаў на гарэлку на 2,5 працэнта. Зараз, у рознічным продажы паўлітровая «вінтавая» бутэлька гарэлкі «Крышталь-100» каштуе 2 153 рублі (раней – 2 102), «Белая Русь», «Крышталь-люкс» – 2 223 (2 171), «Белая Русь-люкс», – 2 303 (2 249).

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Дарагая мая кватэра

У студзені 2002 году прадоўжыўся рост тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва.

На 4,7% павялічылася квартплата (тэхабслугоўванне) і плата за карыстанне ліфтам, на столькі ж падаражэла гарачая вада, ацяпленне, халодная вада і каналізацыя, вываз і абясшкоджванне адкідаў. Тарыф на газ не змяніўся, плата за карыстанне радыёкропкай узрасла на 10,3%.

У абсалютных лічбах для жыхароў Мінску тарыф на халодную ваду і каналізацыю павысіўся з 84,5 да 88,5 рубля за кубічны метр, вываз адкідаў – з 89,13 да 93,32, абясшкоджванне адкідаў – з 57,93 да 60,65, плата за карыстанне ліфтам – са 102,44 да 107,25 рубля на чалавека, за ацяпленне – са 148 да 155 рублёў за квадратны метр агульнай плошчы. Кошт адной гігакалорыі цеплавой энергіі, якая ідзе на падаграванне вады, павялічыўся з 5 444 да 5 699,9 рубля.

Стаўка квартплаты (тэхабслугоўвання), адзіная для ўсёй краіны, узрасла з 11,76 да 12,31 рубля за квадратны метр агульнай плошчы, плата за карыстанне радыёкропкай – са 146 да 161 рубля.

У 2001 годзе рост тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва склаў ад 38 працэнтаў (плата за карыстанне ліфтам) да 2,4 раза (гарачая вада і ацяпленне).

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН**

# Адзін снарад – чатыры калецтвы

4 лютага ў выніку выбуху снараду быў цяжка паранены 49-гадовы токар Пастаўскага дарожнага рамонтна-будаўнічага ўпраўлення №132. Параненыя і тры маладыя рабочыя, што знаходзіліся побач. Адзін застаўся без вока, другі – без рукі, трэці атрымаў асколачную рану. Усе пацярпелыя знаходзяцца ў бальніцы. Папярэдняе дазнанне высвятляе, адкуль з'явіўся снарад і з якой мэтай пацярпелы расточваў яго на такарным станку.

**БелаПАН**

# За хабар – на нары

1 лютага супрацоўнікі ўпраўлення па Брэсцкай вобласці Камітэту па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС затрымалі дырэктара ААТ «Баранавіцкі малочны камбінат» Трафіма Гурыновіча, які абвінавачваецца ў атрыманні хабару ў суме 1,5 тыс. даляраў ЗША.

Як паведамілі БелаПАНу ў прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкаму, Гурыновіч узяў грошы ад прыватнага прадпрымальніка, які такім чынам выйграў конкурс на пастаўку абсталявання для фірменнай крамы гэтага акцыянернага таварыства. Гурыновіча затрымалі ў службовым кабінеце ў момант, калі прадпрымальнік перадаваў яму грошы. Узбуджана крымінальная справа па артыкуле 430, часткі 2 Крымінальнага кодэксу, якая прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам ад 5 да 10 гадоў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН**

# Стралялі па колах

Ноччу 3 лютага супрацоўнікі ДАІ ўпраўлення ўнутраных справаў Савецкага раёну гораду Мінску затрымалі з ужываннем табельнай зброі згоншчыка аўтамабіля. Па звестках прэс-цэнтру ГУУС Мінгарвыканкаму, гэта адбылося ля вёскі Цна Мінскага раёну. Аўтамабіль «БМВ-520», што быў скрадзены з майстэрні па вуліцы Захарава ў Мінску, кіраваў 23-гадовы злодзей, які быў да таго ж у нецвярозым стане. Згоншчык не спыніў машыну на патрабаванне міліцыі на пасту ДАІ ў пасёлку Навінкі, а пратараніў шлагбаум. Пры затрыманні згоншчыка, які спрабаваў уцячы на аўтамабілі, інспектары ДАІ выкарысталі табельную зброю – пісталет Макарава. Адзін папераджальны стрэл быў зроблены ў паветра, тры – па колах аўтамашыны. У выніку былі пашкоджаныя два заднія колы аўтамабіля. Згоншчыка затрымалі, узбуджана крымінальная справа. Аўтамабіль, які атрымаў тэхнічныя пашкоджанні, перададзены ўладальніку.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН**

# Брэст як перавалка ў наркабізнесе

Чэкісты Брэсцкага абласнога ўпраўлення дзяржбяспекі мусяць усё больш адцягваць свае баявыя сілы на вышук наркакур'ераў. Памежны горад Беларусі набывае ролю своеасаблівай перавалачнай базы зелля для ачмурэння, галоўным чынам з Расіі і Украіны на заходні напрамак. Пра гэта кажа хаця б той факт, што толькі цягам 2001 году ў вытворчасці следчага аддзелу УКДБ знаходзіліся 27 крымінальных справаў па фактах незаконнага абароту наркотыкаў. Адна з іх атрымала сваё завяршэнне гэтымі днямі ў Маскоўскім раённым судзе г.Брэсту пад старшынствам суддзі Таццяны Міранюк. Па артыкуле 328 Крымінальнага кодэксу РБ, частка 1, на 3 з паловай гады пазбаўлены волі малады казахскі немец Мікалай Лакоснікаў. Ён прызнаў, што ездзіў на сваю гістарычную радзіму па марыхуану. 889 грамаў наркотыку зашыў у падушку, папярэдне апрацаваўшы схованку чырвоным перцам, каб ашукаць сабакаў на мытні. Без перашкодаў мінуўшы Расію, наркакур'ер спадзяваўся даставіць марыхуану праз беларуска-польскую і польска-германскую межы, але быў затрыманы на мытным пасту «Варшаўскі мост».

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Расце колькасць таннейшых грошай

Нішто так красамоўна не адлюстроўвае слабеючую сілу беларускага рубля, як рост у абарачэнні наяўнай грашовай масы ў асобных рэгіёнах краіны. На Брэстчыне, прыкладам, у 2001 годзе яна павялічылася ажно ў 2 разы. Аднак абвал гатоўкі не суправаджаецца вяртаннем яе аб'ёмаў у банкі праз гандаль і паслугі. На пачатку году фінансісты планавалі выняць з абароту 22 мільярды рублёў. Факт выканання склаў усяго 3 мільярды рублёў. Толькі ў Жабінкаўскім і Пінскім раёнах удалося вярнуць праз касы крамаў, жыллёва-камунальных кантораў, падатковыя інспекцыі і г.д. амаль усе грошы, якія насельніцтва атрымала ў выглядзе зарплатаў і пенсіяў. У Брэсце, Баранавічах і 14 іншых раёнах вобласці ў грашовы абарот дадаткова «выплюхнулася» сума ў 89 мільярдаў рублёў. Пераважным чынам гэта крэдыты, узятыя прадпрыемствамі і калгасамі пад дэклараваную зарплату ў 100 даляраў. Тамтэйшае насельніцтва менш купіла адзення і прадуктаў, затое частку грошай людзі пакінулі на чорны дзень, што сведчыць пра адсутнасць спадзяванняў на стабільнасць у дзяржаве.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## НАШЫ ЗАВОДЫ



Мінскі завод «Ударнік», зборачны цэх

# Дэмакратычныя змены ідуць вельмі марудна

*Такую выснову зрабіла па выніках трохдзённага візіту ў Мінск старшыня Рабочай групы па Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ Ута Цапф 5 лютага. Таму Ута Цапф, а таксама астатнія чальцы дэлегацыі – парламентарыі са Швецыі (Урбан Алін) ды з Латвіі (Хелена Дэмакава) – выказалі толькі «асцярожны аптымізм» у дачыненні да беларускай рэчаіснасці.*



Фота Ул. ШЛАПАКА

Цягам трох дзён дэлегацыя Рабочай групы сустракалася са старшынямі абедзвюх палатаў Нацыянальнага сходу Аляксандрам Вайтовічам ды Вадзімам Паповым, кіраўніком прэзідэнцкай адміністрацыі Уралам Латыпавым, міністрам замежных справаў Міхаілам Хвастовым і міністрам інфармацыі Міхаілам Падгайным. Былі сустрэчы таксама і з прадстаўнікамі процілеглага, апазіцыйнага боку: Кансультацыйнаю радай апазіцыйных палітычных партыяў, Рэспубліканскай каардынацыйнаю радай кіраўнікоў палітычных партыяў, грамадскіх аб'яднанняў, сваякамі і блізкімі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў.

Галоўнай праблемай, з якою дэлегацыі АБСЕ давялося сутыкнуцца ў Мінску, сталіся настойлівыя спробы уладаў справакаваць скандал вакол Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі. Улады настойваюць на змене мандату місіі. Таму афіцыйны Мінск усяляк зацягвае акрэдытацыю новага кіраўніка КНГ, якім хутчэй за ўсё стане былы амбасадар Германіі ва Украіне Эбергард Хайкен.

Аднак прадстаўнікі АБСЕ засталіся непахіснымі. «Мы далі дакладна зразумець, што мандат групы не можа быць скасаваны або перагледжаны. Ён тыповы для краіны, якая знаходзіцца ў працэсе дэмакратычных пераўтварэнняў», – заявіла Ута Цапф. Чатыры ўмовы для афіцыйнага Мінску, сфармуляваныя яшчэ перад парламенцкімі выбарамі 2000 году, застаюцца актуальнымі – гэта дэмакратызацыя выбарчага заканадаўства, стварэнне палітычнага клімату даверу, спыненне ўсіх рэпрэсіяў па палітычных матывах, доступ апазіцыі да дзяржаўных СМІ.

Дэлегацыя Рабочай групы абмяркоўвала пытанне аб увядзенні інстытуту омбудсмена, а таксама праблему захавання правоў чалавека. Ута Цапф прапанавала ў якасці «прыкметы гатоўнасці да паляпшэння» ў гэтай галіне вызваліць з-за кратаў дэпутата Вярхоўнага Савету 13 скліканя Андрэя Клімава, а таксама гомельскага прафесара Юрыя Бандажэўскага.

**Рыгор БУЯН**

## Кіраўнікоў пасадзяць – чыгунцы стане лепш?

Учора Аляксандр Лукашэнка знайшоў галоўную прычыну заняпаду Беларускай чыгункі. Выступаючы на нарадзе з кіраўніцтвам БЧ, ён заявіў, што калі б не карумпаванасць кіраўніцтва галіны, то чыгунцы жылося б значна лепей.

Паводле статыстыкі, летась стан Беларускай чыгункі значна пагоршыўся. Пасажырскія перавозкі ўпалі на 14%, прадукцыйнасць працы знізілася на 7%, рэнтабельнасць зменшылася з 20% да 10%. Пры гэтым цэны на пасажырскія перавозкі ўнутры краіны сёлета падвысіліся ўдвая, а квіткі на чыгуначныя падарожжы за мяжу сталі даражэйшыя на 70%. Дарэчы, усяго на Беларускай чыгунцы працуе каля 100 тысяч чалавек.

Як заявіў кіраўнік дзяржавы, ужо адмоўныя з'явы на БЧ – з-за «неэфектыўнага і незадавальняючага кіраўніцтва галіной». Яе кіраўніцтва, па словах А.Лукашэнкі, «загрузла ў злоўжываннях і вырашала коштам дзяржавы свае асабістыя праблемы».



Нагадаем, што ў канцы лістапада мінулага году начальнік БЧ Віктар Рахманько, які быў і членам Савету Рэспублікі, пазбавіўся пасады і трапіў пад хатні арышт. Супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа – за злоўжыванне паўнамоцтвамі і цяжкую эканамічную шкоду, нанесеную дзяржаве. Разам з ім па крымінальнай справе праходзяць яшчэ некалькі кіраўнікоў БЧ.

Са словаў А.Лукашэнкі атрымліваецца: ва ўсіх праблемах чыгункі вінаваты ягоны былы фаварыт з памагатымі. Як вядома, начальнікам БЧ, як і «сенатарам», Віктар Рахманько стаў паводле рашэння кіраўніка дзяржавы.

Пасля ягонага арышту і адхілення ад пасады, трэба разумець, праблема неэфектыўнага менеджменту вырашылася, і ўжо сёлета рэйкавыя шляхі прынясуць дзяржаве нябачаны раней даход. Галоўнае цяпер – каб А.Лукашэнка зноў не памыліўся з новым прызначэнцам, каб гэта рэгулярна адбывалася апошнія 7 гадоў, і каб той на новым месцы не пракраўся яшчэ горш за папярэдніка.

Пакуль што па выніках нарады выканаўца абавязкаў начальніка БЧ Васіль Гапееў пазбавіўся крыўднага дадатку «в.а.» і стаў паўнавартасным гаспадаром рэек, шпалаў, лакаматываў і вагонаў. Як ён сябе праявіць на гэтай пасадзе – хутка пабачым.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Заводы працуюць на склад

Аб'ектыўныя прычыны цяжкасцяў працэсу фармавання даходаў бюджэту 2001 году выцякалі з асаблівасцяў макраэканамічнай сітуацыі ў краіне. Пра гэта заявіў міністр па падатках і зборах Беларусі Канстанцін Сумар, выступаючы 5 лютага на калегіі Міністэрства па падатках і зборах па падвядзенні вынікаў 2001 году і вызначэнні задач на гэты год. У паседжанні таксама прынялі ўдзел віцэ-прэм'ер ураду Андрэй Кабякоў, старшыня Вышэйшага гаспадарчага суду Віктар Каманкоў, кіраўнікі іншых рэспубліканскіх органаў улады і ўпраўлення, начальнікі падатковых інспекцый краіны.

Паводле словаў К.Сумара, рэальны аб'ём ВУП у супастаўных цэнах вырас у 2001 годзе на 4,1 %, што не знайшло, аднак, адпаведнага адлюстравання ў дынаміцы падатковых паступленняў. Як заявіў міністр, гэта выклікана найперш тым, што рост аб'ёмаў вытворчасці практычна ва ўсіх галінах суправаджаўся павелічэннем запасаў гатовай прадукцыі на складах, а таксама апераджальным ростам выдаткаў на яе вытворчасць.

Яшчэ адным істотным фактарам, што запавольвае дынаміку падатковых паступленняў у бюджэт, міністр назваў новую метадалогію налічэння і выплаты найважнейшай даходнай крыніцы – падатку на дабаўленую вартасць, якая прадугледжвае вяртанне часткі выплачанага падатку з бюджэту пры экспарце прадукцыі. У цэлым па краіне праз выплату іншых падаткаў і збораў залічана ў бюджэт 356,3 млрд. рублёў ПДВ і вернута больш за 51 млрд. рублёў.

Гэтым, паводле словаў міністра, тлумачыцца адмоўная дынаміка паступленняў па ПДВ, якія кантралююцца падатковымі органамі, – 96,3% да ўзроўню мінулага году, і зніжэнне ўдзельнай вагі гэтага падатку ў ВУП – з 7,2% у 1999 годзе да 6,5% у 2001 годзе.

Аналагічная сітуацыя са зборам гэтага падатку прагназуецца і сёлета. Меркаваны памер вяртання ПДВ з бюджэту ў 2002 годзе будзе расці. У сувязі з гэтым, як адзначыў К.Сумар, падатковыя органы павінны аддаваць асаблівую ўвагу абгрунтаванасці памераў вяртання падатку з бюджэту, якія падаюць суб'екты прадпрымальніцтва. Пры гэтым, на думку міністра, асноўная намаганні неабходна засяродзіць на выяўленні і прадухіленні так званага лжээкспарту, лжэімпарту і іншых схемаў, што дазваляць атрымліваць з бюджэту неабгрунтаванае пакрыццё па ПДВ. «Такія віды падатковага махлярства досыць шырока выкарыстоўваюцца не толькі ў развітых краінах, але і ў Расійскай Федэрацыі, і няма сумнення, што неўзабаве іх засвояць і пачнуць шырока прымяняць і нашы платнікі. Мы павінны быць да гэтага гатовыя ўжо сёння,» – заявіў міністр па падатках і зборах.

**Аляксей АРЭШКА**

# Хутка запусцяць пасольскую карусель

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

З таго часу Мілошавіча перавезлі ў Гаагу, дзе ён дае ў трыбунале паказанні пра сваю дзесяцігадовую дзейнасць у якасці кіраўніка Югаславіі, а Беларусь так і не стала ўдзельніцаю Пакту стабільнасці на Балканах. Так пачала называцца праграма эканамічнага аднаўлення Югаславіі пасля разбуральных войнаў 90-х гадоў. І з некаторага часу на калегіях МЗС пачалі адзначаць кепскія паказчыкі працы беларускага пасольства ў Будапешце. Але не эканамічныя паказчыкі сталі прычынаю запланаванай замены пасла Беларусі. Грозныя прэтэнзіі да ягонае працы з'явіліся пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Па некаторых звестках, вынікамі галасавання ў гэтай замежнай установе засталіся незадаволены асноўны кандыдат у прэзідэнты. Пасля абвяшчэння ягонае перамогі пачалі разбірацца і з рэальнымі вынікамі галасавання ў другіх замежных установах. Кепскія вынікі нібыта далі ў Стакгольме, дзе таксама, як і ў Будапешце, быў акрэдытаваны першы пасол Рэспублікі Беларусь.

На думку шэрагу спецыялістаў, беларускаму пасольству ў Стакгольме так і не ўдалося як мае быць «раскруціць» Беларусь у Скандынавіі і прылеглым да яе рэгіёне. І прычынай такога становішча стала не адсутнасць прафесіяналізму беларускіх дыпламатаў. Яны проста былі асуджаны на няўдачу з-за працягу палітыкі афіцыйнага Мінску і непрыняцця з боку сусветнай супольнасці. Гэта адчуваюць і ціха канстатуюць не толькі паслы ў другіх еўрапейскіх сталіцах, якія прарабілі там не адзін год, але і тыя, што нядаўна там з'явіліся. Ні ў Еўрапейскім Саюзе, ні ў *NATO*, ні ў Савеце Еўропы і другіх структурах аптымізму ў дачыненні да цяперашняга кіраўніцтва Беларусі не адчуваюць. Ствараецца такое ўражанне, што там проста не ведаюць, як далей можна станоўча ўплываць на яго. Па неафіцыйных звестках, многія беларускія дыпламаты з апошніх сіл спрабуюць знайсці яшчэ хоць нейкія аргументы, якія б маглі апраўдаць упартасць свайго прэзідэнта.

Кажуць, яшчэ адзін кепскі паказчык па галасаванні на прэзідэнцкіх выбарах быў зарэгістраваны ў Лондане. Вось так, і тамтэйшаму беларускаму паслу прадракаюць хуткае вяртанне дадому. У сувязі з гэтым цікава, хто яго, дый іншых, замяніць. Кандыдатуры на пасады новых паслоў старанна засакрэчваюцца. Як лічаць некаторыя назіральнікі, пры цяперашнім кадравым голадзе паслом можа стаць хто заўгодна. Перманентная катавасія з кадрамі і структурнымі зменамі ў знешнепалітычным ведамстве, дзе ў сярэднім раз на два гады мяняецца кіраўнік, вядзе да прафесійнай дэградацыі. Праўда, гэты ж малюнак назіраецца і ў іншых структурах дзяржаўнага кіравання Беларусі. Бо карусель круціцца далей.

**Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ**

## СВОЙ ГОЛАС

***– Ці адбілася на вашым жыцці штомесячная адсутнасць індэксацыі пенсіі ў адпаведнасці з ростам цэнаў і падзеннем рубля?***



**Ніна Іванаўна:**
– Не, на маё жыццё не паўплывала, і росту коштаў я не адчуваю.



**Соф'я Іванаўна:**
– А то як жа ж! Канечне, адбілася! У мяне сям'я – шэсць чалавек, дык што ж вы думаеце? Але ж мы болей за маладых перажываем, ім жа як цяпер цяжка. Мы хоць нейкую пенсію атрымліваем.



**Іван Іосіфавіч:**
– Што, не зразумеў? А-а, ну ясна – уплывае! А вы як думалі? Цэны ж растуць кожны дзень!



**Віктар Канстанцінавіч:**
– Я, людзі, у прынцыпе ваенны пенсіянер, і ў мяне асаблівых прэтэнзій да дзяржавы няма. Але калі астатнім не падвышалі са жніўня, то гэта ўжо цікава!



**Ядзвіга Станіславаўна:**
– Ну вядома, цяжка сёння нам, старым. Долар расце, кошты таксама, усё расце, а мы...



**Уладзімір Мікалаевіч:**
– Ну як гэта не ўплывае?! Канечне! Цэны растуць.



**Марыя Іванаўна:**
– Ну канечне ж. Калі былі выбары, патрэбна была камусьці падтрымка, то і размова была, і пенсія, а зараз што? Скончыліся выбары, і ўсё астатняе таксама. Так заўсёды бывае. Абяцанкі ўсякія.



**Марыя Рыгораўна:**
– Ужо даўно ўплывае гэта на маё жыццё. Усё вырасла ў два разы, калі не болей, а пенсіі дакінь капейкі нейкія, і набыць за яе няма чаго. Усе ж цэны выраслі, і малочныя, і мясныя... Нічога добрага. Памыліліся мы, абраўшы Сашку.



**Марыя Пятроўна:**
– А з якой вы газеты? Ну скажыце мне, ці ж можна за семдзесят пяць тысяч рублёў пражыць? І гэта ў мяне стаж трыццаць дзевяць гадоў! Ну скажыце, што гэта такое?! Гэта жах! Жах! Вы там акуратней у газеце, а то заўтра і гэта забяруць.



**Наталля Паўлаўна:**
– Уплывае! Вельмі ўплывае! Мы, пенсіянеры, усё горш і горш, бядней і бядней жывем. І гэтая дабаўка, калі яна індэксуецца, яна не пакрывае тых павышаных цэнаў, якія вырастаюць за гэты час. Гэта ўсё здзек уладаў з пенсіянераў!



**Іван Іванавіч:**
– Ну ўплывае, уплывае. Гэтак жа, як і на ўсіх астатніх. Прабачце, спяшаюся...




**Яўстафій Іосіфавіч:**
– Ну як вы разумееце? Ну вось кватэра падаражэла на пяць тысяч. Мяса падаражэла на тысячу ў сярэднім, было дзве дзвесце, а зараз тры тысячы семсот рублёў. І што там дадалі ў верасні пенсіі, а пасля: кастрычнік, лістапад, снежань, студзень, люты. Вось зараз яшчэ нейкія пятнаццаць тысяч дадуць зверху. Канечне, усё гэта дрэнна ўплывае на нашае пенсіянерскае жыццё.



**Іван Фёдаравіч Кудраўцаў:**
– Ну што ж зробіш... Гэта б нядрэнна, калі б іх падвысілі зараз, але ж нешта, відаць, не атрымліваецца. Будзем спадзявацца і верыць, што ж нам застаецца.

Апытанне правodзілі
**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# Апошні цяжкі год рэформаў

*У матэрыяле, які вы прачытаеце ніжэй, няма ніводнага аўтарскага слова. Цытаты ўзятыя з самай масавага органа дзяржаўнага друку – газеты «Советская Белоруссия» – за студзень 1994 году. Часам адны толькі загалоўкі, а то і проста рэклама. Чаму 1994 год? Якраз тады народ выраўшы абраць свайго першага прэзідэнта. Месяц за месяцам мы пастараемся не толькі нагадаць факты мінулага, але і перадаць тую атмасферу расчараванняў і спадзяванняў, у якой тады жылі людзі. Як магло здарыцца, што, разлічваючы ў 1994 годзе на «апошні цяжкі год рэформаў», мы праз восем гадоў жывём у краіне, дзе ўлады за рэформы так і не ўзяліся? Хто і як абраў гэтую ўладу? Хто каго ашукаў? Магчыма, наша мінулае дапаможа зразумець сучаснасць, каб зноў не памыліцца ў будучым.*

Дорогие соотечественники! Друзья!

Отсчитывает последние минуты 1993 год. Он, как два предыдущих, совпал со временем решительных перемен в обществе. История человечества мало знает изменений такого масштаба. Преобразования в Беларуси – это только маленькая частица большого всемирного процесса.

1994 год должен стать последним тяжелым годом реформ. Дальше так жить люди просто не смогут!

*Из Новогоднего поздравления Председателя Верховного Совета РБ С.Шушкевича*

За новогоднюю ночь и два последующих выходных дня 27 жителей республики свели счеты с жизнью, тем самым превысив месячное количество самоубийств в году минувшем.

*

На первое рабочее заседание Минского горисполкома в наступившем году (оно должно состояться в ближайшие дни) будет внесено предложение о повышении тарифа на проезд в общественном транспорте. Стоимость одной поездки возрастет до 100 или даже 200 рублей.

*

Не спешите записываться на курсы, где обещают помочь «сбросить» вес! Новый год и без того обрекает на вынужденное похудение. Цены угрожают быть такими, что за минимальную зарплату и за аналогичное пенсионное пособие особо сыт не будешь.

*

– Евгений Анатольевич, сатира и юмор – ваша профессия. Я бы хотела выяснить, расположено ли наше общество к юмору?

– Считаю, мы самая веселая страна. Судите сами. Зачем, к примеру, Америке театр сатиры? Над чем им смеяться? А у нас? Куда ни глянь – умора. Мы творцы смешного.

*Из интервью главного режиссера театра «Христофор» Е.Крижановского*

*

Институт социологии Академии наук Беларуси завершил очередной этап социологического мониторинга. Основной вывод: общество нищает и «левеет», находится на грани социального взрыва.

*

**Исторические реалии и современные миры**

Авторы «100 вопросов и ответов из истории Беларуси» опубликованных в ряде газет, на вопрос «Был ли древнерусский народ?» безапелляционно отвечают: «Древнерусского народа не было. Его придумали русские историки.

*

Вчера в Москве на переговорах Бориса Ельцина, Виктора Черномырдина и Вячеслава Кебича обсуждались проблемы торгово-экономических отношений. Вечером подписано заявление об объединении денежной системы Беларуси с денежной системой России.

*

Как это ни грустно, но даже рачительным хозяевам отныне придется значительно раскошеливаться за пользование электроэнергией и газом. Ведь в новом году их стоимость для населения возросла в три раза.

*

**Я спросил сегодня у менялы...**

«Подкосило» ли его бизнес постановление №774 Совмина об экстренных мерах по отношению к уличным продавцам валюты? – Меняла только пожал плечами, обронив фразу: «Запреты эти никак не ведут к исчезновению нашего ремесла, а лишь повышают стоимость услуг».

*

**Минский МВБ**:

российский рубль – 4,51 белорусского

доллар США – 6600 белорусских рублей

*

**Свободному обществу – свободное слово**

Мы с вами, коллеги!

Понимаем, что дамоклов меч, занесенный над гласностью в России, – это угроза не только для печатных органов этой страны. В любой момент «дурной пример» может стать сигналом к действию в Беларуси и других странах бывшего Союза.

*Коллектив «Советской Белоруссии»*

*

ВНИМАНИЮ руководителей министерств, ведомств, предприятий и организаций независимо от форм собственности

Совет Министров сообщает: об открытии кредитной линии Германии на 1994 год и проведение конкурсного отбора инвестиционных проектов в соответствии с действующим в республике «Порядка выдачи иностранных кредитов»

Телефоны для контактов:

Госкомплан 296-701

Минфин 296-253

*

**Белорусский премьер Вячеслав Кебич в российском Белом доме**

О главном событии минувшей рождественской недели «СБ» успела оповестить читателей в предпраздничном номере: в Москве достигнуто соглашение об объединении денежных систем России и Беларуси. Сегодня сообщаем подробности события, которое, вероятно, во многом предопределит жизнь республики в наступившем году.

*

Глядя на рост цен, впору хвататься за валокордин. Но вот беда, он вместе со многими другими лекарствами стал дороже втрое.

*

Гомельский судостроительный завод освоил производство нового пассажирского теплохода, предназначенного для внутригородских и пригородных линий. Его рабочее название – «Проект 95030».

*

Референдум городского масштаба. Жителям Борисова предстоит решить – доверяют ли они местным властям.

*

Падение курса доллара на наличном валютном рынке объясняется слухами о грядущем объединении денежных систем России и Белоруссии по курсу 1:1.

*

**К визиту Президента США Билла Клинтона**

строки из биографии:

Президент женат на Хиллари Родэм Клинтон. У них есть дочь Челси. Билл Клинтон любит читать. Он бегает трусцой и играет в гольф. И иногда играет на саксофоне.

*Отдел информации МИД РБ*

*

**Рукавички из старых носков**

Если поискать, в каждом доме найдутся старые шерстяные носки. Выбросить жалко, а починка дает малый эффект. Но из них легко и быстро можно смастерить теплые рукавички для ребенка.

*

**Виновные должны ответить**

Из доклада Александра Лукашенко и выступлений депутатов ясно просматривается, что мафия, создав у себя коммерческие структуры, занимается грабежом богатства, которое принадлежит нашему государству.

*И.Курс, ветеран войны*

*



*

Литовские спецслужбы похитили в Минске лидеров подпольной Компартии Литвы Бурокявичюса и Ермолавичюса. Спецслужбы суверенной Беларуси в полном неведении. Или делают вид...

*

Главы правительств Российской Федерации и Республики Беларусь заявили, что необходимая подготовительная работа для реального объединения денежных систем Республики Беларусь и Российской Федерации практически завершена.

*

**Дешевой жизни не видать нигде**

По данным статистического комитета СНГ, за 11 месяцев по сравнению с тем же периодом прошлого года цены выросли в 17,2 раза.

*

Парламент отозвал Станислава Шушкевича на место рядового народного депутата. Премьер остался на своем посту. Вчера проходили политические консультации объединений, фракций, групп.

*

Александр Лукашенко

«На этом месте нужно быть и политиком, и экономистом, и стратегом, и тактиком. Но в управлении державой он не проявил компетентности или хотя бы энергии».

*

Александр Лукашенко предложил вниманию коллег по законодательному собранию самого молодого претендента – Виктора Гончара. В итоге ВС остановился на трех кандидатах: Мечислав Гриб, Михаил Маринич, Виктор Гончар.

*

Во втором туре голосования Председателем Верховного Совета Беларуси избран Мечеслав Гриб.



Падрыхтаваў **Сяргей НІКАЛЮК**

**ПОШТА**

## Эканомім на старых і дзецях!

Пасля выбарчай кампаніі ўрад перайшоў да шырокамаштабнай эканоміі. Зручна эканоміць на старых. Памеры пенсіяў, якія выраслі дзеля перадвыбарчай агітацыі, скарачаюцца штомесяц паралельна з бягучым ростам цэнаў і інфляцыяй, якая на сённяшні дзень склала каля 20%.

Ужо зэканомілі на бацьках, чые дзеці паўміралі ад анкалогіі, выкліканай аварыяй на ЧАЭС. А ў лістападзе 2001 году ўрад зняў малыя льготы з пацярпелых бацькоў за аплату саміх кватэр, важка абгрунтаваўшы свае рашэнне змяненнем закону РБ «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС». Улада прапанавала бацькам проста забыць, што ў іх некалі былі дзеці: «вашы дзеці памерлі, не дажыўшы да 18 гадоў, і не былі вашымі кармільцамі на момант



Фота Ул. ШЛАПАКА

сваёй смерці».

Не слабне чыноўніцкі апетыт. Гомельскі абласны аддзел адукацыі ўжо прапанаваў і праверыў на практыцы чарговыя мерапрыемствы, якія паставілі пад удар здароўе цэлага падрастаючага пакалення.

Цяпер увагу дзяржаўнай эканоміі атрымалі нашыя дзеці і ўнукі. Кіраўніцтва дашкольнымі ўстановамі, іх кантроль і забеспячэнне – справа органаў адукацыі, якія і правялі гэты эксперымент у Гомелі. Першая яго частка прайшла ў дзяржаўным маштабе ціха і непрыкметна, пры поўнай абязнанасці бацькоў і ціхім, негалосным абурэнні працаўнікоў дашкольных установаў.

Аб'ём фінансавання харчавання для дашкольных установаў у IV квартале 2001 году застаўся без зменаў у параўнанні з III кварталам таго самага году, нягледзячы на няспынную інфляцыю і рост цэнаў. Прасцей кажучы, аб'ём харчавання аўтаматычна зменшыўся амаль на 20%. Гэтых грошай ужо ў лістападзе не хапала на паўнавартасны дзённы рацыён і, як вынік, з дзіцячага меню была выключана садавіна. Навёўшы такую эканомію, міністэрства адукацыі дае згоду на ініцыятыву кіраўніцтва Гомельскага аддзелу адукацыі правесці другую частку эксперыменту, у якой дзеці, што знаходзяцца ў дашкольных установах, пазбаўляліся вячэры.

Але ежа – адзіная крыніца, з якой дзіця атрымлівае ўсе рэчывы, неабходныя для пабудовы яго клетак і тканак, і энергію, якая забяспечвае працу ўнутраных органаў і дзейнасць нервовай сістэмы. Каларыйнасць харчавання дыетолагі вызначаюць у кілакалорыях, і сутачная іх норма павінна быць роўная:

у веку ад 1,5 да 3 гадоў – 1 600 ккал,

у веку ад 3 да 4 гадоў – 2 100 ккал.

Пры складанні меню дзённага рацыёну трэба правільна размеркаваць харчаванне ў працэнтным стасунку: сняданак і вячэра па 25%, абед – 30–35%, полудзень – 15–20% ад усёй каларыйнасці ежы за суткі.

Калі харчаванне пабудавана няправільна і харчовыя рэчывы паступаюць у дзіцячы арганізм у недастатковай колькасці, у няправільных суадносінах або не ў пару, то ў дзіцячым арганізме адбываецца наступнае: затрымка фізічнага і псіхічнага развіцця, узнікаюць парушэнні структуры і функцыяў яго органаў; зніжэнне імунітэту, што вядзе да агульнага аслаблення арганізму.

11 ліпеня 2001 дашкольныя ўстановы атрымалі досыць дзіўны дакумент аб нормах харчавання ў дзіцячых яслях, дзіцячых садах, яслях-садах, размешчаных на кантралява-ных тэрыторыях РБ з працягласцю знаходжання ў іх дзяцей 9–10,5 гадзін. У гэтых нормах аб'ём хлебабулачных вырабаў зменшаны на 25%, бульбы і макаронных вырабаў – на 15%, малочных прадуктаў – на 16% коштам выняцця вячэры з рэжыму дашкольных установаў. Да сённяшняга дня адсутнічаюць нарматывы каларыйнасці, якія адпавядаюць скарочаным нормам харчавання і якія пры складанні меню абавязковыя.

Што сказаць дзіцяці, якое ўжо пасля 16.00 просіць есці? Асабліва прыкры малюнак у ясельных групах, дзе немагчыма прымусіць дзіця пад'есці адразу пасля сну. Перанесці полудзень на пазнейшы час працаўнікі дзіцячых установаў не маюць права, бо ўжо ў 16.00 дзеці мусяць браць удзел у дзяржаўнай выхаваўчай праграме «Пралеска», якую склалі і строга кантралююць супрацоўнікі ўсё таго ж адукацыйнага ведамства.

Цяжкая эканамічная сітуацыя ў краіне не дае магчымасці бацькам зарабіць сваёю працай досыць грошай на правільнае харчаванне сваіх дзяцей. У многіх сем'ях, а гэта да 40% усіх сем'яў краіны, асноўная надзея была на паўнацэннае харчаванне дзіцяці ў яслях і дзіцячых садках.

Каб паставіць птушачку ў пытанні пра галадаючых дзяцей і адрапартаваць перад урадам пра сваю чалавечнасць, Гомельскі аддзел адукацыі пакідае вячэру ў адзіным дзіцячым садку №11 Гомелю, які нібыта наведваюць дзеці ўсіх перасяленцаў.

Чарговы удар бацькі атрымалі ў снежні 2001 году: цяпер яны мусяць аплачваць 60% кошту харчавання дзяцей у дашкольных установах. Эканоміць на дзецях, дык эканоміць!

**Святлана СВЯТЛІЧНАЯ**, Гомель

## Псіхалагічна беларусы супраць трансплантацыі

Медыцынскія работнікі Брэсцкай вобласці маюць намер праводзіць сярод насельніцтва растлумачальную працу, скіраваную на пераадоленне псіхалагічнага непрымання трансплантацыі чалавечых органаў.

«Псіхалагічна насельніцтва нашай краіны не гатова да таго, што ў нас можа шырока прымяняцца перасадка органаў», – сказаў загадчык аддзялення рэанімацыі Брэсцкай абласной клінічнай бальніцы Анатоль Феакцістаў 1 лютага на сустрэчы з журналістамі, прысвечанай тэме трансплантацыі органаў. Паводле звестак медыкаў, 68 жыхароў Брэсцкай вобласці мусяць пастаянна праходзіць курс ачышчэння арганізму ў аддзяленні гемадыялізу абласной клінічнай бальніцы. Кожны трэці з іх – ва ўзросце да 30 гадоў. Большасць з гэтых людзей маюць патрэбу ў перасадцы нырак. Летась у рэспубліцы было зроблена 28 перасадак нырак, у тым ліку пяці хворым з Брэсцкай вобласці. Паводле падлікаў дактароў, сёння на Брэстчыне на хранічную ныркавую недастатковасць пакутуюць 210 чалавек.

«Закон «Аб трансплантацыі органаў і тканак чалавека» быў прыняты ў Беларусі ў 1997 годзе. На думку брэсцкіх дактароў, заканадаўча акрэслены ўсе аспекты забору органаў, выключаны выпадкі злоўжывання з боку медыцынскіх работнікаў. Галоўная праблема – негатоўнасць насельніцтва і, перш за ўсё, сваякоў смяротна хворых, у якіх канстатуецца смерць мозгу (гэтак званая заграннічная кома) даць дабро на забор органаў. «У Расіі росквіт трансплантацыі. Там праводзяцца аперацыі па перасадцы сэрца, не кажучы ўжо пра ныркі, – сказаў Анатоль Феакцістаў. – Што тычыцца Беларусі, то мы пакуль гаворым толькі пра ныркі. У нас узровень развіцця трансплантацыі невысокі. І галоўная прычына ў тым, што жыхары Беларусі пакуль маральна не гатовыя да гэтага».

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Падтрымка бізнесу

Семінар «Эканамічныя асновы бізнесу для індывідуальных прадпрымальнікаў» пачаў працу ў Гомелі ў рамках праекту Міжнароднай фінансавай карпарацыі «Развіццё малога і сярэдняга бізнесу ў Беларусі».

У лютым у рамках праекту плануецца правесці яшчэ 5 семінараў па актуальных пытаннях развіцця малога і сярэдняга бізнесу ў краіне. У лютым таксама плануецца правесці 4 паседжанні прэс-клубаў для прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі. Тэмай паседжанняў, якія пройдуць у Магілёве і ў Брэсце, стане «Лібералізацыя ў Беларусі». 8 лютага ў Гомелі плануецца абмяркаваць тэму «Як зарабіць грошы», а 13 лютага ў Мінску – пытанні ўдасканальвання прадпрымальніцкага клімату ў краіне.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

# Падземка

*Метро калі не самы зручны, то напэўна самы хуткі від грамадскага транспарту. Карэспандэнты НАШАЙ СВАБОДЫ прабылі некалькі гадзін у падземцы не як звычайныя пасажыры, а «пры выкананні»— значыць, пільна за ўсім назіралі і распытвалі пра ўсё супрацоўнікаў метрапалітэну.*

**Парады па бяспецы:**

1. Не заходзіць за белую абмежавальную паласу на платформе. (Там ніколі не ўбачыце супрацоўнікаў метро – яны дакладна ведаюць, што гэта небяспечна).

2. Эскалатар можа зацягнуць доўгае адзенне. Асабліву небяспеку ўяўляюць развязаныя шнуркі на дзіцячым абутку. У нашым метро быў выпадак, калі эскалатар зацягнуў шнуркі. І толькі амаль імгненнае спыненне эскалатара супрацоўнікамі метро ўратавала дзіця ад траўмы.

3. Калі чалавек апынуўся на рэйках, то, калі не відаць цягніка, ён павінен хутчэй бегчы да месца прыпынку першага вагона – там, дзе гадзіннік. Яму на дапамогу падаспеюць супрацоўнікі метро. Калі ж цягнік побач, трэба хутка легчы паміж шпал – канструкцыяй прадугледжана, каб чалавек не параніўся ў такім становішчы.

## Тэхніка

Мінскі метрапалітэн – гэта 20 станцый працягласцю 23,6 кіламетра. На платформах, дзе няма калон, змяшчаецца 4 100 чалавек, на тых станцыях, дзе ёсць калоны, – 3 900, і толькі на «Кастрычніцкай» – 3 300. Гэта пры разліку 4 чалавекі на 1 квадратны метр платформы. Інтэрвал руху цягнікоў у «часы пік» – 2 хвіліны на першай лініі і 2,5 – на другой. На пасадку-высадку пасажыраў адводзіцца 30 секунд. На жаль, даволі часта гэты нарматыў не выконваецца. Асабліва, калі нехта з пасажыраў прытрымлівае рукамі дзверы вагона, каб змаглі зайсці спадарожнікі. У 99 выпадках збой руху цягнікоў на сумленні пасажыраў, не абцяжараных веданнем правіл культуры паводзін у грамадскіх месцах.

Парк рухомага саставу налічвае 44 электрацягнікі, якія кожны дзень праходзяць кантроль тэхнічнага стану. Каб зменшыць інтэрвал руху да 1,5 хвіліны, трэба набыць яшчэ 11 цягнікоў. Прыкладны кошт аднаго – мільён даляраў. У планах Мінгарвыканкаму – набыць сёлета некалькі цягнікоў, якія калі не вырашаць праблему меншага інтэрвалу руху, то хоць дадуць дадатковыя вагоны.

За мінулы год пасажырапаток мінскага метро склаў 270 208 253 чалавекі, за суткі – больш як 800 тысяч чалавек. Метро – муніцыпальны транспарт, і амаль ва ўсім свеце ён знаходзіцца на датацыі. Мінскі метрапалітэн не выключэнне. Магчыма, калі б зменшылася колькасць ільготнікаў, а сёння іх налічваецца 40 катэгорый, сталічнае метро было хаця б самаакупным. А пакуль што кожны з нас, плацячы 120 рублёў за жэтон, разумее, што аплачвае і аднаго льготніка.

## Людзі

За мінулы год на рэйках метро апынуліся чатыры чалавекі. На шчасце, усе яны жывыя. Хлопец нападпітку такім чынам хацеў даказаць дзяўчыне сваё каханне. Дзве жанчыны упалі на рэйкі з-за дрэннага самаадчування. Маладая дзяўчына абрала падземку месцам самагубства. Ад смерці яе выратавалі супрацоўнікі метро.

Прыгадваюць і розныя гісторыі пра «арыгіналаў», якія скакалі на рэйкі і пешшу па шпалах ішлі, напрыклад, з «Плошчы Перамогі» да «Акадэміі навук». Такім людзям звычайна шанцуе: на іх не бывае нават драпіны.

У метро даволі часта забываюць асабістыя рэчы. Самая буйная знаходка – кейс з 40 тысячамі яшчэ савецкіх рублёў. Яго вярнулі гаспадару, хоць той і не спадзяваўся. Увогуле кажучы, што калі меркаваць па зваротах грамадзян наконт забытых рэчаў, то такіх фактаў меней не стала. Іншая рэч, што цяпер вельмі рэдка знаходку перадаюць кантралёркам ці міліцыянтам. За апошні час самая дарагая знойдзеная і вернутая гаспадару рэч – пэйджэр.

**Апытанне па тэлефоне: *«Ці падабаецца вам карыстацца мінскім метро?*»**

**Сяргей, бізнесовец:**

– У мяне ёсць два аўтамабілі, але даволі часта карыстаюся метро, бо хутчэй і танней. Да супрацоўнікаў метро ў мяне няма прэтэнзій.

**Ірына, студэнтка:**

– У метро лепей, чым у іншым грамадскім транспарце.

**Ігар, камандзіровачны з Масквы:**

– У вашым метро адпачываю. Калі хто кажа, што там вялікі паток людзей, то ён не бачыў нашага. Разумею, што гэта непатрыятычна, але і вонкава ваша метро мне болей даспадобы.

**Ларыса Дзмітрыеўна, пенсіянерка:**

– Усё дрэнна. У нашай краіне ўсё дрэнна, акрамя людзей. Мы плацім такія грошы, а палюдску не можам ездзіць.

**Алена, службовец:**

– Жыву і працую па лініі метро. Гэта вельмі зручна. Часта прыходзіцца ездзіць і па службовых справах. Калі б не метро, не ведаю, як бы ўсюды паспявала.

**Апытанне: *«Ці падабаюцца вам паводзіны пасажыраў метро?»***

**Сяргей:**

– Зачапіць, аблаяць суседа – без гэтага не абыходзіцца нідзе: ні ў метро, ні ў краме, ні нават у царкве.

**Ірына:**

– Я заплаціла за праезд, таму павінна карыстацца ўсім і турбавацца аб сваім камфорце.

**Ігар:**

– У Беларусі бываю даволі часта на працягу 12 год. Заўважаю, што людзі за апошні час сталі нахабнымі. Але гэта своеасаблівае нахабства, здаецца, яно не знутры ідзе, а ад адчування нейкага адчаю.

**Ларыса Дзмітрыеўна:**

– Люблю назіраць, як маладыя людзі на эскалатары цалуюцца. Так рамантычна. Увогуле, моладзь паводзіць сябе даволі разняволена, гэта добра, а то мы ўсё жыццё былі загнаныя ў стойла.

**Алена:**

– Усюды аднолькава: у асноўным злыя людзі сталага веку і нахабная моладзь. А выхаваныя, зычлівыя людзі ў нас чамусьці заўсёды застаюцца ў ценю.

## Пад зямлёй, як на зямлі

Аддзел міліцыі па ахове мінскага метрапалітэну налічвае прыкладна 300 супрацоўнікаў. Тут служаць і сышчыкі, і кінолагі, і міліцыянты шэрагу іншых спецыяльнасцей. А больш за іншых – звычайных паставых. І падземныя правапарушэнні не адрозніваюцца ад зямных.

Міліцыяй мінскага метрапалітэну за мінулы год было затрымана 967 грамадзян за гандаль у недазволеных месцах. Выяўлена 966 падлеткаў ва ўзросце да 16 год, якія пасля 23 гадзін знаходзіліся без суправаджэння дарослых. Дробнае хуліганства здзейснілі 568 грамадзян. Больш за ўсіх затрымалі нецвярозых пасажыраў – 6 946.

За мінулы год міліцыянты па ахове метро знайшлі 7 падазроных бесгаспадарных прадметаў. І зусім нядаўна, напрыканцы студзеня, на станцыі метро «Няміга» міліцыянт заўважыў скрутак з газетнай паперы, аблеплены скотчам. Ён ляжаў на прыступках, якія вядуць з платформы ў фае. Партатыўны мінашукальнік «спрацаваў» на метал. Тады міліцыянты тэрмінова прыкрылі знаходку адмысловым прыстасаваннем, якое можа нейтралізаваць выбух. І толькі сапёры, прыбыўшы, высветлілі, што скрутак не ўяўляе небяспекі. Там аказаліся рэкламныя абвесткі ды скрэпкі.

Адно з улюбёных месцаў «працы» злодзеяў-«кішэннікаў» – метро. Невядома, ці дапамог каму перасцерагальны плакат «асцярожна – злодзей», але супрацоўнікі крымінальнага вышуку метрапалітэну затрымалі 28 злодзеяў-індывідуалаў вузкай спецыялізацыі і тры групы «кішэннікаў». А на дадатак 291 злачынцу, абвешчанага ў вышук.

Для 176 нелегалаў падарожжа па Мінску скончылася менавіта ў міліцэйскім пастарунку метрапалітэна. Заплаціўшы штрафы за два правапарушэнні – жабрацтва і знаходжанне ў Мінску без рэгістрацыі, яны былі дэпартаваны. Дарэчы, пакуль іх не спыняць (а гэта адбываецца даволі хутка), прафесійныя жабракі зарабляюць у вагонах метро да 50 тысяч рублёў. Як прызналіся «гастралёры» начальніку аддзялення аховы грамадскага парадку і прафілактыкі Леаніду Несцеру, самыя жаласлівыя і «падаючыя» знаходзяцца ў Мінску і Рызе. Таму яны да нас і едуць жабраваць. Аднак хапае і мясцовых пабірушак. Асабліва ў апошні час актывізаваліся «просьбіты» ў манаскім адзенні ці без яго, але з пісьмовым дабраслаўленнем святара праваслаўнай канфесіі. Апошняе не вызваляе ад адміністрацыйнай адказнасці за папрашайніцтва. Летась міліцыянты затрымалі некалькі такіх «божых служак», што хадзілі па вагонах, на іх былі складзены адпаведныя пратаколы. Але яны ізноў працягваюць свой занятак. Самае цікавае, што манашкі, якія стаяць са скарбонкамі ў падземных пераходах метро, маюць на гэты «від дзейнасці» дазвол ад Мінгарвыканкаму. І думай цяпер: царква аддзелена ад дзяржавы, ці як...

«Болей дабрыні ды ў адносінах да саміх сябе, сваіх суграмадзян, – кажа намеснік начальніка аддзелу па ахове Мінскага метрапалітэну Віктар Новаш. – Ці часта вы ўбачыце, каб прытрымлівалі ўваходныя дзверы ў хол? А неўтаймаванае жаданне ўсіх распіхнуць і самому хутчэй зайсці ў цягнік? Што такое можа здарыцца ў жыцці, каб некага выратавалі паўтары хвіліны да наступнага цягніка? А брыдкія і нахабныя паводзіны падлеткаў у пераходах і самім метро?» Яшчэ зусім нядаўна на той жа «Пушкінскай» даводзілася літаральна прадзірацца праз натоўп падлеткаў з бутэлькамі піва, а цяпер можна спакойна прайсці. За гэтымі прыемнымі для пасажыраў пераменамі – праца міліцыянтаў падземкі. Яны таксама ўтаймоўваюць падлеткаў, якія штурхаюць людзей недалёка ад краю платформы ці на прыступках. «На жаль, у нас не шмат месцаў, дзе падлеткі маглі б збірацца, каб гэта не абцяжарыла кішэню іх бацькоў, – кажа начальнік міліцыі Мінскага метрапалітэну Віктар Скурат. – Метро – рэжымны аб'ект, хоць і даступны для грамадзян, а падземныя пераходы – строга функцыянальныя збудаванні. Таму мушу нагадаць, што люстэрка на платформе існуе не для таго, каб прыгажуні падфарбоўвалі вусны, а для машыніста, каб ён сачыў за пасадкай-высадкай пасажыраў. Ну, і зразумела, падземны пераход – не месца для шматгадзіннай «тусоўкі». На жаль, міліцыя не можа вырашыць праблему вольнага часу падлеткаў».

**Апытанне: *«Што вы думаеце аб працы міліцыі Мінскага метрапалітэну?»***

**Сяргей, бізнесовец:**

– На жаль, нельга прыставіць па міліцыянту з дубінкай да кожнага жлаба, які прэцца ў вагон з бруднай сумкай на плячы і пэцкае людзям вопратку. Не так шмат у міліцыянтаў правоў: яны не могуць пакараць падлеткаў, што запанілі ўсе пераходы: п'юць піва і брыдкасловяць. У мяне не выклікае энтузіязму малюнак, калі міліцыянт угаворвае падлетка сысці з пераходу разам са сваім півам, каб не замінаць людзям. Нашых мянтоў лаюць і жук, і жаба, таму яны вымушаны ліберальнічаць.

– Мінскія міліцыянты значна дабрэйшыя і бескарыслівейшыя за маскоўскіх – гэта з асабістага вопыту.

**Ларыса Дзмітрыеўна, пенсіянерка:**

– Апошнім часам іх у метро стала значна больш. Мяне гэта толькі раздражняе: стаяць здаровыя выпешчаныя мужыкі і нічога не робяць. Іх бы ўсіх на завод ды на заробак у сто тысяч. А людзі і без іх у метро дадуць.

**Алена, службовец:**

– Сёння падлеткі на эскалатары ўчынілі такую валтузню, што амаль спіхнулі жанчыну на некалькі прыступак назад. Мусіць, міліцыянты ўбачылі гэта па відэа, і ўжо чакалі іх для перавыхавання.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**


Фота Ул.ШЛАПАКА


Фота Ул.ШЛАПАКА


Фота Ул.ШЛАПАКА

# Выбары ў Францыі: момант расстаноўкі сіл

*Сёлета ў французаў адбудуцца і прэзідэнцкія, і парламенцкія выбары. Гэта значыць, што палітыкі актыўна «спрабуюць на зуб» адзін аднаго, а кампрамат агалошваецца часцей, як звычайна.*



Жан Шырак (наперадзе) і Ліянэль Жаспэн

### Двубой нябачных

Прэзідэнцкія выбары прызначаны ў краіне на 21 красавіка. Выбарчы закон прадугледжвае, каб кожны кандыдат сабраў па 500 000 подпісаў мясцовых дэпутатаў розных узроўняў у сваю падтрымку. Збор подпісаў вядзецца з восені, але адзіныя рэальныя кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду – цяперашні прэзідэнт Жак Шырак і прэм'ер-міністр Ліянэль Жаспэн – дагэтуль афіцыйна не зарэгістраваліся як прэтэндэнты. Тым часам відавочна непрахадныя кандыдатуры навыперадкі заяўляюць пра свой удзел у выбарах.

На людзях, асабліва перад тэлекамерамі, Шырак і Жаспэн дэманструюць адзін да аднаго надзвычайную ветлівасць і прыязнасць. Застаецца толькі здагадвацца, якіх высілкаў волі каштуе гэты спектакль двум немаладым людзям, якія насамрэч з цяжкасцю пераносяць адзін аднаго.

Але палітычны разлік абодвух лідэраў відавочны для ўсіх, хто знаёмы з традыцыяй французскіх выбарчых тэхналогіяў. І прэзідэнту, і прэм'еру ў вачах французаў нашмат выгадней як найдаўжэй заставацца толькі прэзідэнтам і прэм'ерам, без перадвыбарнай падсветкі. Інакш кожны іх рэальны поспех будзе наслойвацца ўва ўспрыняцці французаў на непазбежную палітычную рэкламу, кожны іх учынак будзе разглядацца не інакш, як элемент прапаганды.

Кажуць, што Ліянэль Жаспэн у маладосці быў моцным настаўнікам гісторыі. Напэўна, прымерваючыся цяпер да прэзідэнцкага крэсла, ён навучыўся на памылках аднаго з сваіх папярэднікаў – Элуарда Баладзюра. Падчас папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў (1995 г.) Баладзюр заявіў пра свой удзел вельмі рана. І адразу страціў на папулярнасці. Ягоны рэйтынг непапраўна папоўз уніз, і Баладзюр нават не выйшаў у другі тур. Хоць палітолагі ацэньвалі яго перспектывы досыць высока. Напэўна, Жак Шырак таксама не забыў выбараў 1988 году, калі ён прайграў Франсуа Мітэрану. Мітэран тады заявіў сябе кандыдатам літаральна ў апошні момант – за чатыры тыдні да саміх выбараў. І прыгожа абышоў на фінішы канкурэнтаў.

Паспешлівасць так званых «малых лідэраў» тлумачыцца іншымі прычынамі. А менавіта – парламенцкімі выбарамі, запланаванымі на чэрвень.

### Свята брудных каструль

«Ён цягне за сабой каструлю» – так даслоўна перакладаецца французскі выраз, які характарызуе нячыстых на руку палітыкаў. Як і паўсюль, абедзве выбарчыя кампаніі ў Францыі суправаджаюцца выкідам кампраматаў. Два тыдні назад гучна бразнуў дзвярыма адзін з самых, напэўна, вядомых французскіх суддзяў Эрык Альфен. Яго адстаўка запомніцца французам фразай, якая стала афарызмам: «Я зразумеў, што правасуддзя не існуе. Нічога не змянілася для дробных зладзюжак, што крадуць сумкі ў метро: яны ўсе таксама рызыкуюць шасцю месяцамі турмы. Але людзі, якія пракручваюць на сваю карысць вялізныя сумы грошай, або пазбягаюць суду, або не атрымліваюць па заслугах».

Сем з лішнім гадоў Эрык Альфен расследаваў буйныя фінансавыя злоўжыванні, у якіх замяшаныя многія ключавыя фігуры партыі Жака Шырака – Аб'яднанне ў падтрымку рэспублікі (АПР). Летась Альфен прагрымеў на ўвесь свет тым, што запрасіў даць паказанні па карупцыйных справах французскага прэзідэнта. У прыватнасці, гаворка ішла пра размеркаванне замоваў на рынку рамонтных работ у Парыжы, за што АПР, згодна з пасмяротнымі паказаннямі яе ценевага бухгалтара Жана-Клода Меры, атрымлівала камісійныя гатоўкаю; пра авіябілеты Жака Шырака, купленыя за гатоўкі і на чужое імя, і іншых буйных фінансавых скандалах.

Жаку Шыраку прапаноўвалася выступіць за сведку. Але ён адмовіўся, спасылаючыся на канстытуцыйны суд, які гарантуе імунітэт прэзідэнту пры выкананні абавязкаў. «За мною сачылі, мае тэлефонныя размовы праслухоўваліся, мяне спрабавалі скампраметаваць. Маё прыватнае жыццё разбіта, і мая вера ў правасуддзе, аднолькавае для ўсіх, знішчана», – заявіў, сыходзячы ад справаў, Альфен, гэты самотны чалавек, які ў маладосці паверыў, што можа зрабіць сваю краіну больш справядлівай.

Традыцыйна напярэдадні выбараў пра асноўных кандыдатаў выходзяць кнігі. Найлепшыя пёры журналістыкі прапануюць сапраўдныя расследаванні, на якія нярэдка сыходзіць не адзін год працы, дзе скрупулёзна аналізуецца кожны палітычны крок прэтэндэнтаў на вярхоўную ўладу ў краіне.

«Ліянэль Жаспэн» пад аўтарствам Клода Аскалавіча і «Жак Шырак» Эрыка Земуна размятаюцца цяпер публікай, як гарачыя піражкі. З іх краіна даведалася, што Ліянэль Жаспэн, аказваецца, амаль да 50 гадоў хадзіў у сябрах тайнай трацкісцкай арганізацыі, а Жак Шырак перад выбарамі 1998 году вёў сакрэтныя перамовы з лідэрам Нацыянальнага фронту Жанам-Мары Ле Пэнам пра магчымае саюзніцтва.

**Ала ЛАЗАРАВА**

# Свята для краснадарскіх сялянаў

Учора на хутар Казача-Маляваны ў Краснадарскім краі працягнулі газаправод, які прэзідэнт Пуцін паабяцаў жыхарам падчас «жывой лініі» ў канцы 2001 году. Гэта радаснае для жыхароў паселішча здарэнне – вынік промаху прэзідэнцкіх памагатых.

«Цяпер ужо можна сказаць, што гэта банальная памылка. Памагатыя прэзідэнта, наводзячы даведкі, узялі інфармацыю пра хутар Маляваны суседняга Высялкоўскага раёну, дзе напраўду заканчваліся работы, і ў студзені газ павінен быў прыйсці ў дамы... Але каманда была дадзеная – у студзені ў Казача-Маляваны. Шчыра кажучы, было малаверагодна, што паспеем нават да сярэдзіны лютага», – заявіў гендырэктар *«Юггазификации»* Юрый Нябосаў.

Пытанне ад хутара гучала проста: калі газ дадуць? Пакуль Пуцін адказваў на іншыя пытанні, памагатыя падрыхтавалі яму інфармацыю, і ён сказаў на ўсю краіну: у студзені. «28 снежня 2001 году нам далі даручэнне пачаць работы, каб у студзені газ дайшоў да спажыўцоў у хутары Казача-Маляваны», – расказаў галоўны інжынер ААТ *«Юггазификации»* Мікалай Гразеў. 2 студзеня 2002 году газавікі ўжо распачалі расчыстку маршруту газаправоду, а 12 студзеня адбылася першая зварка трубы. Будаўнікі праклалі амаль 8 км трубы, зводны каштарыс усіх відаў работ склаў трохі болей за 9 млн. рублёў.

За гэтай сціплай інфармацыяй – поўны драматызму сюжэт. Газавікам прыйшлося працаваць пры тэмпературы мінус 27, вышыня снегу дасягала паўтара метра. Пытанне фінансавання вырашылася неяк адразу – ужо 5 студзеня краёвая адміністрацыя пералічыла газавікам неабходныя сродкі. Праца ішла ў звышаўральным рэжыме, і да 31 студзеня першая чарга газаправоду была падрыхтаваная да здачы.

На сёння газ падведзены да дамоў, і застаецца чакаць вясны, каб разабраць печы і ўсталяваць на іх месцы газавыя катлы.

# Адкусі кавалак гарэлкі...

Цяпер у паўднёвакарэйскіх аматараў «зялёнага змія» з'явілася яшчэ адна магчымасць атрымаць асалоду ад свайго ўлюбёнага напою: нядаўна мясцовыя вінаробы прадэманстравалі здзіўленым суайчыннікам прынцыпова новы від рысавай гарэлкі.

Здавалася б, што тут дзіўнага – гарэлка яна і ёсць гарэлка, ну, можа быць, злёгку змененыя яе мацунак, водар, але прынцып застаецца той самы, скажаце вы. І не будзеце мець рацыі. Ці можна папулярны напой насіць у кішэні без пляшкі? Адкусіць ад яго пару кавалачкаў і апетытна пачмякаць? Быццам, пытанні, па меншай меры, недарэчныя, калі не сказаць болей. А вось з новай гарэлкай гэта ўсё зрабіць можна, бо цяпер яе трэба жаваць.

Паўднёвакарэйская вінаробчая карпарацыя «Куксундан» вынайшла спецыяльны загушчальнік на аснове жэлаціну, які дазваляе ператварыць алкаголь у цвёрдую субстанцыю, не мяняючы ягоных якасцяў.

«Мы шукаем новыя шляхі спажывання традыцыйнага напою, – кажа прадстаўнік кампаніі. – Пакуль у нас няма дакладных тэрмінаў выхаду з гэтым прадуктам на рынак, і маркетынгавы аналіз яшчэ не скончаны».

Падобна да таго, што хутка выраз «моцныя спіртовыя напоі» ў вачах карэйцаў набудзе зусім іншы сэнс.

**Міхаіл НЯФЁДАЎ**

# Універсітэцкая навука і бізнес

*Якой павінна быць ступень непасрэднага ўдзелу вышэйшай вучэльні ў камерцыйнай дзейнасці? Ці рызыкуе універсітэт, засноўваючы сваю ўласную кампанію або падтрымліваючы фірмы, заснаваныя сваімі выкладчыкамі, падарваць сваю традыцыйную незалежнасць і адданасць адкрытаму інтэлектуальнаму абмену?*

За апошнія дваццаць гадоў навукова-даследчая праца ўва ўсё большым шэрагу краін пачала насіць прадпрымальніцкі характар, г.зн. ператварылася ў дзейнасць, мэтай якое стала здабыццё прыбытку. Згодна са звесткамі Асацыяцыі менеджэраў універсітэцкіх тэхналогіяў, прынамсі 300 новых кампаніяў былі ўтвораны ў 2000 годзе на аснове вынаходак і адкрыццяў, зробленых ува універсітэтах ЗША. Тое, што пачалося як унікальная амерыканская мадэль у 1980 годзе, калі Кангрэс Злучаных Штатаў перадаў універсітэтам права на нематэрыяльную інтэлектуальную ўласнасць, атрыманую ў выніку навуковых даследаванняў, што праводзяцца пры федэральнай падтрымцы, пазней пашырылася на цэлы шэраг дзяржаваў, напрыклад, Вялікабрытанію, Швецыю і Замбію.

І, натуральна, арыентаваная на атрыманне прыбытку навуковая дзейнасць універсітэтаў робіцца ўсё больш і больш кіраваным працэсам, які кантралюецца універсітэцкімі бюро па перадачы тэхналогіяў, цэнтрамі прадпрымальніцкай дзейнасці і інкубацыйнымі праграмамі. Звычайна прадстаўнікі выкладчыцкага корпусу засноўваюць новыя фірмы, часта пры ўдзеле студэнтаў і дапаможнага персаналу, захоўваючы пры гэтым свае пасады пры універсітэце, а адміністрацыя універсітэту інвестуе ў юрыдычна незалежныя кампаніі – «інкубатары», якія спецыялізуюцца ў асноўным на галінах малекулярнай біялогіі, камп'ютэрных навуках, камбінаторнай хіміі і г.д.

Праціўнікі прадпрымальніцкай дзейнасці універсітэтаў лічаць, што прэтэнзіі апошніх на права ўласнасці на вынікі праведзеных імі навуковых доследаў прыводзяць да канфлікту інтарэсаў накшталт той сітуацыі, калі дзяржаўны службовец скарыстоўвае сваё становішча, каб атрымаць асабістую выгаду, або калі адвакат прадстаўляе абодва бакі ў судовай справе. Згодна з гэтым аргументам, навукоўцы, якія працуюць пры універсітэце, павінны або адкрыта апублікаваць вынікі сваёй працы, або пакінуць універсітэт, перш чым перасследаваць камерцыйныя інтарэсы.

Але карысна прыгадаць і тое, што ў канцы XIX стагоддзя, калі універсітэты ў Злучаных Штатах пачалі адводзіць навуковым доследам цэнтральнае месца ў сваёй дзейнасці, іх абвінавацілі ў адступніцтве ад традыцыйнае педагагічнае ролі. Многія прафесары тады цвердзілі, што, займаючыся навуковымі доследамі, яны будуць няздатныя выконваць свае выкладчыцкія абавязкі.

Вядома ж, галоўнай прычынай такога пашырэння ролі універсітэтаў была эканамічная эфектыўнасць, бо спалучэнне навукова-даследчай і прадпрымальніцкай дзейнасці было нашмат таннейшым, чым захаванне і падтрымка асобных установаў для кожнай з гэтых мэтаў, як было прынята ў Еўропе. Тым не менш, хоць некаторыя дагэтуль бядуюць наконт таго значэння, якое універсітэты аддаюць сёння навукова-даследчай дзейнасці, прыхільнікі пашырэння місіі універсітэтаў збольшага рэабілітавалі сябе і ў галіне выкладання, бо веды, здабытыя ў выніку даследчае працы чальцоў выкладчыцкага корпусу, даюць іх лекцыям актуальнасці.

Фактычна, настойлівыя патрабаванні захаваць традыцыйны падзел працы паміж навукай, якая знаходзіцца на датацыі дзяржавы, і доследамі, якія робяцца ў прыватным сектары, ужо страцілі актуальнасць. Акадэмічная і прадпрымальніцкая дзейнасць ужо цяпер усё больш і больш дапаўняюць адна адну, і дарогі назад няма і быць не можа. Хутчэй наадварот, універсітэты вучацца захоўваць баланс паміж акадэмічнай і прадпрымальніцкай дзейнасцю ўва ўмовах усё меншага прамежку часу паміж новым адкрыццём і ягонай камерцыялізацыяй. Калі ж робіцца ясна, што ў выніку навуковага доследу атрымана прыдатная для рэалізацыі прадукцыя, якая разглядаецца як інтэлектуальная ўласнасць, традыцыйныя формы распаўсюджвання інфармацыі пра новае адкрыццё, такія, як публікацыі ў навуковых часопісах і прэзентацыі на канферэнцыях, па-ранейшаму выкарыстоўваюцца, але на крыху новых умовах, – пры «абмежаванай сакрэтнасці», якая адтэрміноўвае публікацыю да атрымання патэнту на вынаходку.

Тыповы універсітэт, які займаецца прадпрымальніцкай дзейнасцю, мусіць або змяшчаць у сваім складзе фірмы, утвораныя ў выніку навуковых доследаў, або быць імі аточаны і, магчыма, нават мець супольную з імі інфраструктуру. Навучальны курс універсітэту можа ўключаць практыку ў прыватным сектары, тым часам як у фірмаў будзе магчымасць карыстацца універсітэцкімі рэсурсамі, такімі, як бібліятэкі і камп'ютэрная тэхніка. Перакрыжаванае выкарыстанне такога тыпу ўжо пайшло нашмат далей у новых галінах вытворчасці, такіх, як біятэхналогія, якая прапануе вучоным з доктарскай ступенню працоўныя месцы на ўмовах блізкіх да універсітэцкіх. І па меры таго як універсітэты будуць усё больш заглыбляцца ў разнастайныя віды камерцыйнай дзейнасці, досыць высокая верагоднасць узнікнення новых інстытуцыйных дачыненняў, што звычайна адбываецца пры падтрымцы і заахвочванні з боку ўраду.

**© Project Syndicate, люты 2002**

# Без тэрміну даўніны

Днямі апеляцыйны суд у Філадэльфіі зацвердзіў рашэнне аб пазбаўленні 77-гадовага Тэадора Сжэхінскі – былога эсэсаўца з ахоўнага батальёну «Мёртвая галава» – амерыканскага грамадзянства.

Пра гэта паведаміў журналістам дырэктар аддзелу спецыяльных расследаванняў міністэрства юстыцыі ЗША Элі Разенбаум. Пастанову аб пазбаўленні Сжэхінскі грамадзянства вынес акругоўвы суддзя ў Філадэльфіі яшчэ ў ліпені 2000 году, але канчатковае рашэнне па гэтай справе прынялі толькі цяпер.

«Нашыя супрацоўнікі, – адзначыў Разенбаум, – прадставілі пераканаўчыя доказы таго, што Тэадор Сжэхінскі, ураджэнец Галіцыі, з 1943 па 1945 год быў ахоўнікам у трох канцлагерах – Саксенхаузене, Грос-Роузене і ў Варшаве». У 1959 годзе Сжэхінскі, схаваўшы праўду пра сваё злачыннае мінулае, атрымаў візу на ўезд у ЗША і пасяліўся ў гарадку Дрэксел-Хіл (штат Пенсільванія), дзе працаваў механікам.

Як паказаў Разенбаум, з моманту ўтварэння ў 1979 годзе спецаддзелу ўжо 66 нацыстаў і іх памагатых пазбаўленыя грамадзянства ЗША, 54 з іх былі дэпартаваныя. Адносна яшчэ 200 чалавек вядуцца цяпер следствы.

**Міхаіл НЯФЁДАЎ**

# Чычаліна збіраецца стаць дэпутаткай парламенту

Парназорка венгерскага паходжання Ілона Сталер, больш вядомая як Чычаліна, зноў збіраецца кінуцца ў палітыку. Гэтым разам пышнагрудая пафарбаваная бландзінка хоча паўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах на сваёй гістарычнай радзіме, якія пройдуць тут у красавіку. Па звестках мясцовай прэсы, скандальна вядомая парназорка будзе змагацца за месца ў парламенце ад адной з выбарчых акругаў Будапешту, дзе яна нарадзілася. Чычаліна заявіла, што будзе выступаць у якасці незалежнага кандыдата, аднак не выключыла і саюзу з апазіцыйнай Сацыялістычнай партыяй.

Гэта будзе далёка не першы досвед дзейнасці Чычаліны на палітычнай ніве. У 1987 годзе Ілона Сталер заваявала італьянскіх выбарцаў раскошнымі формамі ды шырынёю палітычных поглядаў і атрымала крэсла ў італьянскім парламенце тэрмінам на пяць гадоў.

Па сутнасці, лічаць СМІ, парназорка не так далёка ад паспяховага ўзыходжання на палітычны Алімп у роднай Венгрыі, бо прыёмы, якія Чычаліна прымяняла падчас перадвыбарнай кампаніі ў Італіі, могуць спрацаваць і тут: з'яўленне на публіцы з аголенымі грудзямі і прапаганда «свабоднай любові» дакладна ж не пакінуць абыякавымі ні палітыкаў, ні выбарцаў.

**Міхаіл НЯФЁДАЎ**

# Свята Агінскага

*Людская памяць і павага да духоўных каштоўнасцяў – найлепшы помнік даўніне. Сёння пра гэта сведчыць Залессе – былы маёнтак Міхала Клефаса Агінскага. Ад сучаснікаў Залессе атрымала ўзвышаную назву «Паўночныя Афіны». Тут збіраліся многія сябры і аднадумцы Міхала Клеафаса, абмяркоўваліся грамадскія і палітычныя справы, тут слухалі новыя музычныя і літаратурныя творы.*













Дзякуючы старшаму навуковаму супрацоўніку сядзібы Агінскага Сяргею Верамейчыку, стваральніку дзіцячага батлеечнага тэатру «Альтанка», Залессе паступова ажывае як культурны цэнтр, якім быў некалі.

Сяргей Верамейчык, архітэктар, настаўнік, мастак, адзін з тых, хто самааддана служыць беларускай культуры.

***– Спадар Сяргей, з чаго пачыналася ваша дзейнасць у Залессі?***

– Прыехаўшы сюды, я найперш адкрыў майстэрню малявання — гурток «Апалонік», назва якога шматсэнсоўная. Першае, Апалон і кампанія, другое – галавасцік, а трэцяе, умоўна, – ад слова «апалонік» (чарпалка). Спачатку была ідэя стварыць «Бацянік»— збіраць батанічны гербарый, вывучаць назвы раслін.

У гуртку малявання рабіліся выставы, прысвечаныя Скарыну, дзеці малявалі партрэты знаных асобаў ад Гутэнберга да Леанарда да Вінчы. Зроблена было дрэва Друку. Я вызначыў, што ў пэўным сэнсе першым друкаром у свеце быў Бі Шэн, кітайскі каваль, які прыдумаў выкарыстоўваць пячатку з выявай пэўнага іерогліфа, і кожны кітайскі мастак ці каваль меў такую пячатку са сваім іерогліфам, што, па сутнасці, і заклала першаасновы друкавання: Гутэнберг скампанаваў такія пячаткі-адбіткі.

***— Чаму ўсё ж быў абраны Агінскі, можна было б звярнуцца да Купалавых мясцін, Коласа?***

— Можна. У мяне была думка, калі я працаваў рэстаўратарам у касцёле Св.Тэрэзы ў Шчучыне, а таксама ў Мірскім замку, яшчэ да перабудовы, – зрабіць там «афінскую» вучэльню, школу-цэнтр эстэтычнага выхавання, стаць яе дырэктарам. Была б своеасаблівая гульня ў антычнасць. Можна было б вывучаць геаметрыю, мастацтва і скульптуру. Аднак не атрымалася, гэты праект цяпер недзе ў архівах Гродна.

Потым былі пошукі. У Мінску працаваў дзесяць гадоў у рэстаўрацыі, але неяк не адчувалася задавальнення. У выніку прыехаў сюды дапамагаць Алесю Ласю і Яўгеніі Ліс ды і застаўся.

Тут узнікла ідэя звазіць дзяцей з Залесся ў Гузаў, мястэчка, дзе нарадзіўся Агінскі, а потым – у Італію, Фларэнцыю, дзе ён пахаваны. Дзіўна, але ў 1996 годзе з дапамогай фонду Сораса з'ездзілі ў Гузаў (Польшча).

Я пазнаёміўся ў Смаргоні з сям'ёй Жыхаў. Іна Жых прапанавала зняць стужку пра «Цара Ірада» з удзелам ейных дзяцей. Звычайна гэта рабілася ў сем'ях – батлеечная традыцыя. Яна, дзеці і іх сяброўка, з якой яны разам вучыліся ў музычнай школе, развучылі ролі. Пад скрыпку, баян і гітару паказалі спектакль у Смаргонскай вучэльні.

Пра нас распавялі італьянцам, фонду, які шукаў якраз такі беларускі музычны гурт, які паказаў бы мастацтва нашай краіны ў Італіі. Бо да гэтага вазілі толькі дзяцей Чарнобыля на аздараўленне. Паехалі мы з «Царом Ірадам» ачмураць італьянцаў... Адну песню мы спявалі на латыні. XI стагоддзе, маленькі грыгарыянскі харал... Я глядзеў на рэакцыю італьянскіх гледачоў – дзівіліся, падпявалі. Гэта было першае такое значнае выступленне, для вялікага кола гледачоў. Другое – на само свята, калі прыехаў Віктар Скорабагатаў. Спектакль тады цягнуўся дзве гадзіны, і Скорабагатаў здзіўляўся, як такое могуць вывучыць дзеці.

***— А калі ў Залессі пачалі ладзіць святы ў гонар Агінскага...***

— Такая думка ўзнікла ў 1989 годзе, як толькі я сюды прыехаў. Святы – спроба стварыць новую традыцыю, святкаваць народзіны чалавека, які тут жыў. У кожнай вёсцы, у кожным мястэчку можна знайсці такога чалавека і святкаваць. Калі ж я прыехаў у Залессе, я нічога не ведаў пра Агінскіх. Ды трэба было штосьці распавядаць на ўроках дзецям, больш за тое, ладзячы святы, мусіш ведаць, да чаго яны прымеркаваныя. Так я склаў дрэва роду Агінскіх. Напачатку было ўсяго 5-6 персанажаў у спектаклі, цяпер ужо 12. Як паставіш сябе ва ўмову, форму, трэба адпавядаць гэтай форме, шукаць змест.

***— Ці не варта зрабіць свята нараджэння Агінскага агульнанацыянальным?***

— Не думаю. У нас, калі нешта робяць, абавязкова агульнае ці агульнанацыянальнае. А мы ж насамрэч невялікая краіна, і калі ў кожным рэгіёне будзе сваё свята, невялікае, камернае, – проста цуд! Уявіце, панаедуць у Залессе тысячамі, патопчуць маёнтак! Наагул Агінскі не лічыўся музыкантам, гэта адна з яго іпастасяў. Ушанаваць памяць – гэта не помнік на пастаменце, як зрабілі ў Маладзечне, а паркавая скульптура Агінскага. Вось помнік паланезу «Развітанне з Радзімай» – іншая справа.

***— Вядома, што на вас «ляжаць» два залескія адкрыцці. Якія?***

—Мы адкрылі камень Жана Ралея, настаўніка Агінскага, і горку Бельведэр. Пра камень я чуў, але не ведаў яго месцазнаходжання. Неяк разам з настаўнікамі мясцовай школы і дзецьмі выправіліся шукаць. Метадам дэдукцыі трэба было вызначыць, дзе ён павінен стаяць. Кожны, канечне, хацеў быць Калумбам. Адна дзяўчынка стала на адным месцы і сказала, што камень тут. Мы, дарослыя, спачатку не звярнулі ўвагі. Урэшце падышлі, капнулі – сапраўды камень. Мы яго з год не выкопвалі, хавалі, бо разуменне ў мясцовых людзей такое: могуць у парку Агінскага насячы сабе на дровы... На маю заўвагу, што гэта гістарычны парк, адкажуць: «Лес гэта, які ж парк». І далей пойдуць секчы. Па паэтычным творы «Залессе» Яна Ходзькі, які напісаў сваю паэму, апісваючы Залессе з вялікай дакладнасцю, была вызначана горка, названая ў паэме «Бельведэр» (прыгожая мясціна). Вось на гэтай горцы і ладзяцца святы, і само свята нараджэння Агінскага мы назвалі Бельведэр.

***— А як прыйшла ідэя стварэння «Альтанкі»?***

— Тут, у Залессі, разам з Алесем Ласём і Яўгеніяй Ліс мы паспрабавалі зрабіць галоўнай падзеяй школы свята на глебе гісторыі пра Агінскага. А ў гэтым свяце галоўнай справай было стварэнне оперы. Аднак гэта не зусім атрымалася, і я ўзгадаў сваё захапленне батлейкай, бо тады была хваля адраджэння тэатру. Першымі былі Лось і Ліс, але яны з'ехалі, і я застаўся адзін. Стварыў мадэрновую батлейку, у сэнсе канструкцыі, каб можна было без асаблівых цяжкасцяў пераносіць. Засеў за тэкст, паспрабаваў агучыць, напісаць музыку. Рэпертуар спачатку складаўся з «Музычнай казкі» і «Баранькі». З'яўленню «Альтанкі» спрыяла настаўніца Ксенія Мійсак, якая ўзяла сабе музычны гурток у школе. Мая прапанова рабіць музычныя казкі спадабалася. На свяце для бацькоў мы паказалі «Курушчабятуру», а пасля прэзэнтавалі ў 1993 годзе «Калядную дзіцячую оперу» («Цара Ірада»).

Ужо потым ішло стварэнне спектакля, прысвечанага Агінскаму – «Вечар у Паўночных Афінах, або Сон Антонькі». Герой – сучасны хлопчык, які жыве тут, па дарозе ў школу ён сустракае мачыху, якая ператварае яго ў ляльку. Потым ён сустракае батлеечныя лялькі і ідзе з імі ў незвычайную школу, дзе не гавораць, а пяюць. Там ажываюць персанажы: Жан Ралей, Паліяні і г.д. Урэшце распавядаецца пра Агінскага. Называецца гэты твор «гульня ў оперу», бо лялечны тэатр гуляе ў вялікі тэатр, а ўсё, што гучыць музычнага, будзе ўяўляць сабою нейкую оперу.

І гэта універсальная форма, сінтэз мастацтваў: дэкарацыі, лялькі, акторы, спевы, музыка – гэта не самамэта, але каб дзеці, няхай толькі залескія, ведалі пра Агінскага, Жана Ралея і інш. У 1996-1997 годзе ўжо з другім складам актораў мы выставілі спектакль на суд гледачоў. І Агінскі тут не быў галоўным, за мэту ж ставілася распавесці пра асяроддзе Агінскага — як прыязджалі італьянскі оперны спявак Паліяні, кампазітар Восіп Казлоўскі, які напісаў гімн Расіі «Гром победы раздавайся» ў форме паланезу, Юзаф Струміла, батанік, ксёндз, які кансультаваў Агінскага, як садзіць парк. Мэта – адрадзіць гэты пантэон гасцей Агінскага.

***— А як дзеці між сабой і вы з імі знаходзіце паразуменне?***

— Паколькі я выкладаў у школе, я ведаў залескіх дзяцей, бываў часта ў іх бацькоў у гасцях. Галоўнай мэтай было, каб дзеці пазбавіліся школьнай лагафобіі – боязі публічных выступаў. Некаторыя ад свайго голасу пад стол лезуць. І калі яны малявалі, я прыносіў гітару, і мы спявалі. Спецыяльна дзеля гэтых урокаў я напісаў для дзяцей 15 аўтарскіх песень. Цяпер прыходзіцца рэпетаваць больш у Смаргоні, бо дзеці пераважна жывуць там. Удаецца рэпетаваць толькі адзін раз на тыдзень з-за празмернай нагрузкі ў агульнаадукацыйнай і музычнай школах. Па чарзе рэпетуем у сем'ях: адна сям'я прыме, другая. Летам працей на прыродзе ці ў сядзібе Агінскага.

***— Па сутнасці, ваш тэатр – унікальная з'ява. Ці не лічыце, што іх павінна быць многа?***

— Вядома, такая форма навучання існавала ў XVIII стагоддзі ў сістэме адукацыі ў піярскіх і езуіцкіх калегіумах. Гэта зусім не тое, што набіраць гурток па-за межамі школьнага працэсу.У мяне быў дыпломны праект па школьным тэатры. Будуецца тэатр каля вясковай школы.

У школьным тэатры выкладаюцца ўрокі хіміі, матэматыкі. Напрыклад, урок хіміі: робіцца дэкарацыя табліцы Мендзялеева. Кожнаму вучню даецца імя з табліцы. У канцы спектакля ўсе ведаюць сваё месца ў табліцы. Той жа закон Ньютана (зямля і яблык) падаць праз гульню. Праўда, калі рабіць гэта як метадычку і паўсюдна ў школах – будзе жах. Патрэбна альтэрнатыўная аўтарская школа. Можа, калі і будзе.

**Інтэрв'ю брала**
**Ірына ТОЎСЦІК**

**КАНФЕСІІ**

## Духоўна адукуюцца ўва Украіне

Святары Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) будуць атрымліваць бясплатную духоўную адукацыю ўва Украіне. Такую згоду даў патрыярх Кіева, усяе Русі і Украіны Філарэт на сустрэчы з кіраўніком справаў БАПЦ, мітрафорным пратаіерэем Іванам Спасюком. Як паведаміў БелаПАНу а.Спасюк, каля 20 юнакоў з Беларусі будуць вучыцца ў духоўных навучальных установах Кіева, Роўна і Чарнігава.

Каментуючы нядаўняе рашэнне іерархаў Беларускага экзархату Маскоўскага патрыярхату аб пазбаўленні яго сана святара, Спасюк зазначыў, што гэта – парушэнне ўсіх канонаў, якія прымаліся на ўсяленскіх саборах. «Я не быў нават запрошаны на паседжанне царкоўнага суду і Беларускага экзархату. Акрамя таго, зараз я маю дачыненне не да Беларускага экзархату Маскоўскага патрыярхату, а да БАПЦ пад кіраўніцтвам мітрапаліта Мікалая (Таронта, Канада). Таму клір Беларускага экзархату мяне не можа пазбавіць сана святара», – сказаў пратаіерэй. Паводле яго словаў, рашэнне Беларускага экзархату сведчыць пра яго імкненне пацвердзіць манаполію Рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі і выклікаць недавер паствы да адраджэння БАПЦ на тэрыторыі краіны.

Іван Спасюк з'яўляецца настаяцелем праваслаўнай парафіі святой найпадобнай Еўфрасінні Полацкай у пасёлку Пагранічны Бераставіцкага раёну Гродзенскай вобласці. Пытанне аб рэгістрацыі абшчыны дагэтуль не вырашана. Паводле інфармацыі пратаіерэя, ад намесніка старшыні Берастavіцкага райвыканкаму Пятра Дудзька атрыманая чарговая адмова. «Ён чамусьці не заўважыў, што спіс заснавальнікаў абшчыны налічвае зусім не 13, як напісана ў адмове, а 83 жыхары пасёлка Пагранічны і прылеглых вёсак», – сказаў святар. Абшчыне таксама адмоўлена ў рэгістрацыі юрыдычнага адрасу па месцы жыхарства. Згодна з растлумачэннем, раней атрыманым ад Дзяржаўнага камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, такая рэгістрацыя для дома, які стаіць асобна, магчымая пры згодзе дзяржаўнага пажарнага нагляду і санэпідэмстанцыі. «Аднак раённая санітарна-эпідэміялагічная служба паведаміла, што гэтыя пытанні не ў яе кампетэнцыі, а мясцовыя пажарныя наагул не адказалі нам», – паведаміў Спасюк. Паводле яго словаў, калі ўлады зноў адмовяць абшчыне БАПЦ у рэгістрацыі, яна будзе «адстойваць свае права ў судах аж да міжнароднага».

Сёння ў Беларусі налічваецца каля 100 пакуль не зарэгістраваных прыходаў БАПЦ.

**БелаПАН**

